

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 2 (21), 1999 ЗЫХОД СВЯТОГА ДУХУ

Як дасканалае ачышчэнне грахоў, прыміце, светлыя дзеці Царквы, палымяную расу Духа. Сёння з Сыёну выйшлі новы закон і ласка Духа ў выглядзе вогненных языкоў.

Дух уладны зыходзіць ад Айца і навучае мовам апосталаў. Ён накладае пячаць на жыццядайныя словы Збавіцеля, бо мае сілу і прыроду Айца.

Бог-Слова, пачатак усяго, што існуе, ачысціў душы нашыя ад граху, і ўчыніў апосталаў беззаганным жыллём, у якім светласць раўнамагутнага і адзінасутнага Ягонага Духа сёння пасяляецца.

*(З канону на свята Зыходу Святога Духу)*

*Трапар (тон 8)*

Благаславёны Ты, Хрысце Божа наш, што рыбакоў напоўніў мудрасцю, паслаўшы ім Духа Святога, і праз іх улавіў увесь сусвет. Чалавекалюбча, слава Табе.

*Кандак (тон 8)*

Калі Усявышні, зышоўшы, мовы змяшаў, Ён раздзяліў між сабой народы; калі ж паслаў вогненныя языкі, да еднасці ўсіх паклікаў. Дзеля гэтага мы ўсе згодна славім Усесвятога Духа.

*ЗЫХОД СВЯТОГА ДУХА НА АПОСТАЛАЎ. Зёлаўскі майстар. 2-ая палова XVIII ст. Абраз выяўлены ў царкве Святой Тройцы в.Зёлава Дарагічынскага р-ну Берасцейскай вобл.*

## *Прыйдзі, Дух любові і супакою!*

Табе, Дух любові, разам з Усемагутным Айцом і Адзінародным Сынам, хай будзе хвала, пашана і слава на вякі вякоў. Амін.

*(З Малітвы Святога Айца Яна Паўла II перад Вялікім Юбілеем 2000 Году)*

# Прымірэнне ў Еўропе — місія Цэркваў

З 7 па 12 траўня ў Менску адбылася беларуская рэгіянальная кансультацыя ў рамках праекту «Прымірэнне ў Еўропе — місія Цэркваў на Украіне, у Беларусі, Польшчы і Германіі». У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі розных канфесіяў хрысціянскай Царквы з Польшчы, Германіі, Беларусі, Украіны і Расеі.

Асноўнай тэмай кансультацыяў было абмеркаванне праблемы «Секулярызацыя і духоўнасць». З дакладамі па гэтым пытанні выступілі кс. Здзіслаў Кіяс (рыма-католік, Кракаў) і дыякан Андрэй Кураеў (РПЦ, Масква).

Таксама прагучалі даклады Валянціны Трыгубовіч (Праваслаўнае Брацтва «Трох Віленскіх мучанікаў», Менск) «Развіццё грамадзянскай супольнасці», біскупа Клаўса Воленвебера (лютаранін, Гёрліц, Германія) «Захад, як ён сябе ўяўляе», садаклад Андрэя Кыштымава (Інстытут гісторыі АН Беларусі, Менск) «Вобраз Захаду — як мы яго разумеем. Савецкі міф і постсавецкая рэальнасць». Па гэтых дакладах было праведзена абмеркаванне, у якім прымалі ўдзел прадстаўнікі ўсіх канфесіяў, што прысутнічалі на паседжаннях: рыма-католікі, праваслаўныя, лютаране, баптысты і грэка-католікі.

У межах кансультацыяў адбылася паездка ў Горадню, дзе ўдзельнікі наведалі праваслаўны катэдральны сабор і рыма-каталіцкую семінарыю. Адбылася таксама невялікая экскурсія па горадзе. У Каложскай царкве для ўдзельнікаў кансультацыяў быў наладжаны канцэрт духоўнае музыкі — спевы гучалі ў выкананні хору «Дойліды» (Горадня).

Паседжанні ў Менску адбываліся ў памяшканні Міжнароднага адукацыйнага цэнтра (ІВВ).

У заключны дзень быў арганізаваны «круглы стол» з удзелам міжцаркоўнай групы ІВВ.

Ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў вышэйназваных кансультацыях прымалі ўдзел а. Андрэй Абламейка, Яўген Андросік (Менск), а на сустрэчы ў Горадні прысутнічаў а. Віктар Данілаў.

**Яўген Андросік**
*г.Менск*

# Новы магістар багаслоўя ў нашай Царкве

Семінарыст Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Кірыла Невяроўскі, які вучыцца на факультэце тэалогіі Люблінскага каталіцкага ўніверсітэту *(KUL)*, 27 красавіка 1999 году абараніў сваю магістарскую працу (дысертацыю) «Пазнанне Бога паводле Паўла Еўдакімава».

Праца была напісаная на катэдры Гістарычнае тэалогіі пад кіраўніцтвам праф. Чэслава Бартніка і атрымала адзнаку «выдатна».

Рэдакцыя газеты «Царква» ад імя ўсіх вернікаў БГКЦ шчыра віншуе новага магістра багаслоўя нашай Царквы і чакае ад яго новых цікавых і грунтоўных матэрыялаў для газеты.

# Дзень памяці ахвяраў Чарнобыля ў Пінску

26 красавіка ў календары Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы пазначаны як дзень памяці па ахвярах Чарнобыльскае катастрофы. У гэты дзень у Пінску прадстаўнікамі дэмакратычнае грамадскасці было наладжана жалобнае шэсце па вуліцах горада ў памяць аб ахвярах Чарнобыля. Піншчына — гэта той рэгіён Берасцейскай вобласці, які найбольш пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Таму, калі мясцовыя адраджэнцы звярнуліся да душпастыра для грэка-католікаў Берасцейскай вобласці айца Ігара Кандрацьева з просьбай прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве, памаліцца за ахвяраў Чарнобыля, ён са шчырым разуменнем прыняў гэтую прапанову. Арганізатары звярталіся да прадстаўнікоў усіх канфесіяў, якія дзейнічаюць у Пінску, але толькі прадстаўнік Грэка-Каталіцкай Царквы адгукнуўся на просьбу непасрэдна звярнуцца да людзей у гэты трагічны для нашай Беларусі дзень.

Каля двух соцень пінчукоў прынялі ўдзел у жалобным шэсці па вуліцах Пінску. На перадзе калоны неслі крыж і ікону Маці Божай Чарнобыльскай, за імі ішоў грэка-каталіцкі святар а. Ігар. Чарнобыль закрануў усіх — незалежна ад рэлігійнай і партыйнай прыналежнасці людзей. І няма нічога дзіўнага, што ў калоне можна было пабачыць сцягі з жалобнай чорнай стужкай прадстаўнікоў розных партыяў і арганізацыяў. Чарнобыльскі звон, што гучаў падчас шэсця, гучаў не па кімсьці абстрактным, ён гучаў па ўсіх нас. Што нас чакае наперадзе — сёння ведае адзін толькі Бог.



*Пінск, 26 красавіка 1999 году. Чарнобыльскае шэсце*

Шэсце, што пачалося ў цэнтры Пінска, завершылася на набярэжнай Піны. Айцец Ігар памаліўся за ўсіх тых, хто загінуў у выніку гэтай самай жудаснай катастрофы XX стагоддзя, а таксама за здароўе тых, што цяпер яшчэ хварэюць і пакутуюць ад наступстваў Чарнобыля, і папрасіў блаславення ў Госпада для нашага беларускага народу. Кожны з удзельнікаў жалобнага шэсця атрымаў буклет з беларускім тэкстам малітваў за памерлых, за хворых, а таксама з малітвай аб благаславенстве і рэлігійным гімнам беларусаў «Магутны Божа», які адспявалі ўсе ўдзельнікі па завяршэнні малітваў. Апошнім акордам гэтага жалобнага мерапрыемства стаў спуск у воды Піны вянка з бел-чырвона-белай стужкай у памяць аб ахвярах Чарнобыля.

У гэты ж дзень, 26 красавіка, у Пінску адбыўся ўстаноўчы сход па заснаванні парафіі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Пінскія вернікі абралі сабе патронам славутага беларускага біскупа св. Кірылу Тураўскага. Цяпер яны чакаюць на рэгістрацыю ў мясцовых органах улады. (Тэл. для кантактаў у Пінску 36-36-65).

# Мучанікі з Расіцы – блаславёныя сыны Зямлі Беларускай



*Слуга Божы Антон Ляшчэвіч (1890-1943)*



*Слуга Божы Юры Кашыра (1904-1943)*

У часе II Сусветнай вайны айцы Антон Ляшчэвіч і Юры Кашыра працавалі на місіі ва Усходняй Беларусі з цэнтрам у Расіцы. Хрысціянская вера, прыгнечаная атэістычнай прапагандай, паступова адраджалася. Калі на гэтай тэрыторыі пачалі актыўна дзейнічаць партызаны і ўзнікла пагроза, што фашысты пачнуць карную аперацыю, абодва айцы вырашылі застацца са сваімі вернікамі, калі б нават гэта пагражала ім смерцю. Да апошняй хвіліны свайго жыцця айцы спавядалі, удзялялі прычасце, хрысцілі, прыймалі вызнанне каталіцкай веры, прамаўлялі казанні, супакойвалі, рыхтавалі да смерці як каталікоў, так і праваслаўных. Усіх вяскоўцаў — і старых, і малых — немцы сагналі ў расіцкі касцёл, адкуль партыямі вывозілі — адных на чыгуначную станцыю для адпраўкі на прымусовую працу. Іншых — расстрэльвалі альбо закідвалі гранатамі. Целы забітых аблівалі бензінам і палілі. Многіх спалілі жыўцом. Святары заступаліся за людзей, тлумачылі, што яны невінаватыя. Калі фашысты загадалі святарам пакінуць вернікаў, тыя адказалі, што вернуцца дадому толькі тады, калі адпусцяць усіх людзей, калі не — застануцца з імі.

17 лютага 1943 г. мучаніцкую смерць разам са сваімі вернікамі прыняў а. Антон Ляшчэвіч. Яго расстралялі непадалёк ад праваслаўнай царквы. На наступны дзень разам з 30 вяскоўцамі акупанты жыўцом спалілі ў драўляным доме а. Юрыя Кашыру...

Сёння шмат вядома пра жыццё і пакутніцкую смерць мучанікаў з Расіцы — слугаў Божых Антона Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры. Малавядомым, аднак, застаецца іх дачыненне да ўнійнага руху і Царквы ўсходняга абраду, якія аказалі немалы ўплыў на духоўнае станаўленне і лёс айцоў-пакутнікаў.

Вядома, што айцец Юры Кашыра нарадзіўся 4 красавіка 1904 г. у в. Аляксандрава ў засценку Забалацце на Мёршчыне. Паходзіў ён з праваслаўнай сям'і Тадэвуша і Марыі Кашыраў, таму Святыя Тайны Хросту і Мірапамазання атрымаў у праваслаўнай царкве в.Чарэса. Выхоўваўся ён таксама ва ўсходняй традыцыі. Маці Юрыя паходзіла з уніяцкай сям'і, якая ў часы пераследу Грэка-Каталіцкай Царквы была прымусова пераведзена на праваслаўе. Пацверджаннем гэтаму ёсць той факт, што пасля абвяшчэння царскага ўказу аб верацярпімасці маці а.Ю.Кашыры выкарыстала магчымасць вярнуцца да Каталіцкай Царквы, прыняўшы лацінскі абрад. Юры Кашыра рана страціў бацькоў, і яго выхоўвалі родзічы ў маёнтку Багданава.

Вяртанне маці ў каталіцтва не магло не паўплываць на тое, што ў 1922 г. Юры Кашыра складае вызнанне каталіцкай веры.

Пазней, калі Юры Кашыра праходзіў навіцыят у кляштары айцоў марыянаў у Друі — славутым беларускім рэлігійным і культурным асяродку — ягоным духоўным настаўнікам быў айцец архімандрыт Андрэй Цікота, вядомы дзеяч унійнага руху. Тамсама сустракаўся Юры Кашыра з айцамі Язэпам Германовічам і Фабіянам Абрантовічам, якія таксама шмат зрабілі дзеля пашырэння ўсходняга абраду і беларускай мовы.

З каталіцтвам усходняга абраду быў звязаны і лёс айца Антона Ляшчэвіча. Ён нарадзіўся 30 верасня 1890 г. на Віленшчыне ў в.Абрамоўшчына, што каля Вілейкі.

Доўгі час а. Ляшчэвіч працаваў у Харбіне (Кітай) — вядомым цэнтры расейскага каталіцтва. Падчас працы айца Антона Ляшчэвіча ў парафіі св. Станіслава Харбін быў ахоплены ўнійным рухам, у якім бралі актыўны ўдзел многія праваслаўныя і каталіцкія святары. Айцец Антон не толькі не застаўся ў баку ад гэтай справы, але і быў адным з галоўных падзвіжнікаў гэтага руху з каталіцкага боку. У хуткім часе ў храме св. Станіслава пачалі адбывацца набажэнствы ва ўсходнім абрадзе з удзелам шматлікіх праваслаўных вернікаў. У 1924 г. Уладзівастоцкі біскуп Карл Слівоўскі ўтварае новую каталіцкую парафію ў Харбіне, якая ўзяла сабе за патрона святога змагара за хрысціянскую еднасць Язафата Кунцэвіча. Душпастырам для вернікаў гэтай парафіі быў прызначаны менавіта айцец Антон Ляшчэвіч. Пазней супольнымі праваслаўна-каталіцкімі сіламі была ўзведзена ўніяцкая капліца св. Уладзіміра. Падтрымліваючы гэты спантанна ўзніклы ўнійны рух, Апостальская Сталіца ў 1928 г. прызначыла ардынарыя для ўсходніх католікаў у Манчжурыі. На гэтую важную пасаду быў прызначаны марыянін айцец архімандрыт Фабіян Абрантовіч. Не толькі супольная праца звязвала айца Ляшчэвіча з кіраўніком усходніх католікаў а.Фабіянам. У часы вучобы ў Санкт-Пецярбургскай духоўнай семінарыі айцец Абрантовіч быў ягоным выкладчыкам, і з той пары пачалося іх моцнае сяброўства.

У лютым 1937 г. марыянскі дом усходняга абраду ў Харбіне з візітацыяй наведаў генерал марыянаў а. Андрэй Цікота, былы школьны сябра айца Антона. А ўжо ў красавіку а. Антон Ляшчэвіч, які меў тады 23 гады святарства, прымае рашэнне ўступіць у манаскую Супольнасць Айцоў Марыянаў...

Беларускія айцы марыяне Антон Ляшчэвіч і Юры Кашыра палічылі сваім святарскім абавязкам аддаць свае жыцці за вернікаў. Зрабілі яны гэта з любові да Хрыста і бліжніх.

*Божа ласкавы! Змілуйся над намі малітвамі блаславёных слугаў Тваіх Антона і Юрыя і даруй вечны супакой усім ахвярам нялюдскіх рэжымаў у Беларусі! На вас, блаславёныя айцы-мучанікі з Расіцы, з падзякай і надзеяй глядзіць уся нашая Царква. Блаславёныя Юры і Антон, маліцеся за нас і за нашу Беларусь!*

**Андрэй Крот**
*г.Берасце*

# «Любоўю лякуйце раны мінулага»

***7-9 траўня адбыўся візіт Рымскага Архірэя ў Румынію. Святы Айцец Ян Павел II упершыню наведаў краіну з дамінуючай большасцю праваслаўных вернікаў.***

У аэрапорце Бухарэста Яна Паўла II, як вестуна супакою і паяднання, прывітаў прэзідэнт Румыніі Эміль Канстантынэску. «Прыймаем Вашу Святасць з добраю думкаю і адкрытым сэрцам!— сказаў праваслаўны Патрыярх Румыніі Тэактыст.— Спадзяемся, што міласэрны Бог і супакой будуць з намі», — падкрэсліў Патрыярх.

У сваёй прамове Святы Айцец узгадаў, што «камуністычны рэжым дэлегалізаваў злучаную з Рымам Румынскую Грэка-Каталіцкую Царкву ды пераследаваў яе біскупаў і святароў, манахаў і манашак, якія за сваю вернасць Хрысту заплацілі ўласнаю крывёй». Таксама ён выказаў радасць у сувязі з выбарам Румыніяй дэмакратычнага шляху, на які яна стала ў 1989 годзе, адзначыў, што на гэтым шляху могуць сустрэцца перашкоды. Ян Павел II пажадаў Румыніі стаць «развітаю краінаю, зямлёю плоднаю дабром, салідарным народам, будаўніком супакою».

У той самы дзень Папа разам з патрыярхам Тэактыстам удзельнічаў у экуменічнай малітве, якая адбылася ў праваслаўным патрыяршым катэдральным саборы. Пасля гэтага адбылася сустрэча Яна Паўла II з грэка-каталіцкім і рыма-каталіцкім епіскапатам Румыніі. Святы Айцец папрасіў біскупаў клапаціцца аб новых святарскіх і манаскіх пакліканнях сярод моладзі, а таксама пра плённае супрацоўніцтва са свецкімі вернікамі.

Ян Павел II прызнаў справядлівасць патрабаванняў грэка-каталіцкіх біскупаў аб вяртанні храмаў і каталіцкіх школаў, адабраных у грэка-католікаў сілаю. Папа выказаўся з пашанаю пра працу змешанае грэка-каталіцка-праваслаўнае камісіі ў гэтай справе, якая павінна вырашыць звязаныя з вяртаннем цяжкасці.

Другі дзень візіту ў Румынію Ян Павел II распачаў з наведвання бухарэсцкіх могілак Бэлю, дзе пахаваныя шматлікія грэка-каталіцкія святары — ахвяры камуністычнага рэжыму. Затым Святы Айцец удзельнічаў у спатканні з румынскімі грэка-католікамі, якое адбылося ў катэдральным саборы св. Язэпа ў цэнтры Бухарэста. «Любоўю лякуйце раны мінулага,— сказаў Папа да шматтысячнае супольнасці.— Няхай ваша супольнае цярпенне не прычыняе падзелаў, а здзейсніць цуд адзінства». На заканчэнне спаткання была адслужана Літургія св. Яна Залатавуснага з удзелам Папы. У казанні Ян Павел II адзначыў: «На працягу трох стагоддзяў, часамі з нечуваным ахвяраваннем, вы сведчыце пра вашую веру ў еднасць. Дарагія браты, вашы кайданы, кайданы вашага народу, з'яўляюцца гонарам і славаю Царквы: праўда зрабіла вас свабоднымі! Вашу свабоду спрабавалі задушыць, але гэта не ўдалося. Унутры вы засталіся вольнымі, нягледзячы на тое, што былі ў кайданах; свабодныя, нягледзячы на слёзы і прыніжэнне; свабодныя, нягледзячы на тое, што вашыя супольнасці былі нішчаныя і пераследаваныя»,— казаў узрушаны Святы Айцец. Ён падкрэсліў таксама абавязак клапаціцца пра моладзь, якая ёсць будучыняй Царквы. У той жа дзень Папа сустрэўся з Святым Сінодам Румынскай Праваслаўнай Царквы. «Гэта незабыўны візіт,— сказаў Ян Павел II падчас сустрэчы.— Тут я пераступіў парог надзеі».

Галоўныя рэлігійныя ўрачыстасці адбыліся на трэці дзень паломніцтва, у нядзелю 9 траўня. У першай палове дня Святы Айцец удзельнічаў у Святой Літургіі, якую адправіў Патрыярх Тэактыст на пляцы Уніі (Еднасці). Патрыярх падкрэсліў, што гэта вялікі і святы момант у гісторыі Царквы, бо першы раз на гэтай зямлі Біскуп Рыму ўдзельнічае ў Літургіі, якую служыць праваслаўны Патрыярх.

У другой палове дня Ян Павел II адслужыў Імшу паводле лацінскага абраду ў парку Подул Ізвор. «Хай будзе бласлаўлёнае імя Божае, за сардэчнасць і зычлівасць, з якою вы прынялі мяне»,— дзякаваў Папа. Увечары 9 траўня Святы Айцец вярнуўся ў Ватыкан.

## Упершыню пасля II Сусветнай вайны Пінск мае свайго біскупа

Рымскі Архірэй прызначыў а. Казіміра Велікасельца, які да апошняга часу з'яўляўся пробашчам парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Баранавічах і генеральным вікарыем Пінскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі, пінскім ардынарыем. Ён стаў першым па вайне пастырам гэтае дыяцэзіі.

Біскупу намінату 54 гады, паходзіць ён з в.Стараволя, што на Берасцейшчыне. Ён рана адчуў пакліканне да святарства, аднак ва ўмовах камуністычнага рэжыму не мог яго рэалізаваць. У 1978-1981 гг. працаваў у кацельні. Адначасова рыхтаваўся да святарства. Рыхтаваў яго айцец пралат Вацлаў Пенткоўскі з Мядзведзічаў. Толькі ў 1981 годзе К.Велікаселец змог паступіць у духоўную семінарыю ў Рызе. Некалькі месяцаў пазней у Вільні ён пазнаёміўся з дамініканамі, якія працавалі там у падполлі. У студзені 1982 г. а. К.Велікаселец уступіў у гэты манаскі закон.

Святарскія свячанні яму ўдзяліў у 1984 годзе апостальскі адміністратар Рыжскай архідыяцэзіі Юльянс Вайводс. З 1984 г. а. Казімір Велікаселец быў пробашчам парафіі ў Ішкалдзі (Баранавіцкі р-н), а з 1991 г. і да апошняга часу ён працаваў у Баранавічах, дзе быў таксама мясцовым дэканам.

## Праваслаўныя Цэрквы Балгарыі аб'ядналіся

10 красавіка ва ўзросце 92 гадоў памёр балгарскі мітрапаліт на адпачынку Пімен (колішні мітрапаліт Неўракопскі), які ўзначальваў альтэрнатыўную Праваслаўную Царкву, якая аддзялілася ад Балгарскай ПраваслаўнайЦарквы (БПЦ) у 1992 годзе, а ў 1996 годзе абвясціла Пімена сваім Патрыярхам. Паводле прэсавых крыніцаў, смерць наступіла ад сардэчнага крызу.

Раскол у Балгарскай Царкве ўзнік у 1992 годзе пасля таго, як Упраўленне па справах веравызнанняў пры балгарскім урадзе абвясціла незаконнасць абрання Патрыярха Максіма, якое адбылося ў 1971 годзе ў перыяд жорсткай залежнасці Царквы ад камуністычнае ўлады.

Некалькі ерархаў на чале з мітрапалітам Неўракопскім Піменам адмовіліся падпарадкоўвацца Патрыярху Максіму і ягонаму Сіноду і ўтварылі 31 траўня 1992 году альтэрнатыўную Царкву. За гэта 7 ерархаў былі суспендаваны (забаронены) Архірэйскім саборам БПЦ на чале з Патрыярхам Максімам.

У ліпені 1996 году альтэрнатыўная Праваслаўная Царква Балгарыі абвясціла мітрапаліта Неўракопскага Пімена сваім патрыярхам.

30 верасня — 1 кастрычніка 1998 году ў Сафіі адбыўся Усеправаслаўны сабор з удзелам прадстаўнікоў і ерархаў усіх памесных праваслаўных Цэркваў, які быў склікааны па ініцыятыве Сіноду БПЦ на чале з Патрыярхам Максімам. Сабор аднавіў у сане тых біскупаў, якія выказалі жаданне вярнуцца ў БПЦ і абвясціў пра аднаўленне адзінай Праваслаўнай Царквы ў Балгарыі пад кіраўніцтвам Патрыярха Максіма.

# Ці з'явяцца манахі-трапісты ўсходняга абраду?

Магчыма, у наступным тысячагоддзі сярод традыцыйных на Украіне манаскіх законаў — базыльянаў, студытаў, рэдэмптарыстаў — з'явіцца яшчэ адзін: трапісты ўсходняга абраду. Такая ідэя нарадзілася ў ігумена манастыра Найсвяцейшай Багародзіцы з Эленбергу (Эльзас, усходняя Францыя) і знайшла падтрымку ў кіраўніцтва УГКЦ.

Трапісты — каталіцкі манаскі ордэн, які быў заснаваны ў 1663 г. абатам цыстэрцыянскага манастыра Ла-Трап (Францыя) дэ Рансэ. Гэты высокаадукаваны арыстакрат у 30-гадовым узросце адмовіўся ад перспектывы бліскучай кар'еры на карысць суровага пакаяннага жыцця манаха. Для сваіх паслядоўнікаў ён устанавіў суровыя правілы па прыкладзе ўсходняга аскетызму: адзінаццаць гадзінаў у суткі трапіст моліцца, рэшту часу працуе ў полі; маўчанне перапыняецца толькі для малітвы і абеду; ежа — гародніна, садавіна і вада; адзенне — раса з каптуром.

Увосень мінулага году на Украіне пабываў ігумен манахаў-трапістаў а. Сымон Карэр разам з грэка-каталіцкім айцом-дыяканам Сцяпанам Підсадным з Францыі. Падчас сустрэчы з ерархіяй УГКЦ яны прапанавалі праект стварэння на Украіне ордэну трапістаў усходняга абраду.

Некалькі гадоў таму а. Сымон Карэр пакінуў манастыр у Ізраілі і ўзначаліў манаскую супольнасць у Эленбергу. Гэты манастыр, які знаходзіцца на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў ля мяжы з Нямеччынай і Швейцарыяй, яшчэ на пачатку стагоддзя налічваў каля 200 манахаў. Манастыр застаецца адным з цэнтраў духоўнага жыцця Францыі, аднак сёння ён мае ўсяго 15 манахаў, і ёсць небяспека, што ён закрыецца. Іншыя ж манастыры трапістаў у Францыі перажываюць сапраўднае абнаўленне і прымаюць шматлікія пакліканні. Новы ігумен вырашыў паспрабаваць адрадзіць жыццё ў манастыры, запрасіўшы ў яго юнакоў з Усходняй Еўропы і зберагаючы за імі ўсходні абрад. Айцец Карэр прапануе штогод прыймаць у манастыр у Эльзасе некалькі юнакоў, якія прагнуць прысвяціць сябе Богу, праводзіць час у малітве, вывучэнні Святога Пісання і працы, прыняўшы правіла св. Бенядзікта і асаблівае ўшанаванне Найсвяцейшай Багародзіцы (пры гэтым будзе ўлічвацца спецыфіка ўсходняга абраду). Праз 7-8 гадоў выхаваныя ў такім духу манахі вернуцца на радзіму і, са згоды кіраўніцтва Царквы, змогуць заснаваць першы манастыр трапістаў усходняга абраду. Браты з эленбергскага манастыра ў Францыі будуць аказваць сваім усходнім братам-трапістам духоўную і матэрыяльную падтрымку. Ужо гэтым летам айцец Сымон Карэр плануе наведаць Украіну для сустрэчы з маладымі людзьмі, якія адгукнуцца на ягоную прапанову, каб адказаць на іхнія пытанні, больш падрабязна распавесці пра жыццё манахаў-трапістаў і ацаніць матывацыю зацікаўленых.

# Выданне кнігі «Духоўнасць Хрысціянскага Усходу»

У Львоўскай Багаслоўскай Акадэміі 22 красавіка 1999 году адбылася прэзентацыя кнігі а. д-ра Тамаша Шпідліка «Духоўнасць Хрысціянскага Усходу». Айцец Тамаш Шпідлік з'яўляецца вядучым спецыялістам у галіне ўсходняга багаслоўя ў Папскім Арыентальным Інстытуце (Рым). Ягоная кніга «Духоўнасць Хрысціянскага Усходу» — гэта фундаментальная праца, прысвечаная даследаванню розных аспектаў усходняй духоўнасці, дзе паказана надзвычай багатая традыцыя, якую выпрацавалі хрысціянскія Цэрквы на працягу стагоддзяў. Гэта цэлая скарбніца духоўнага багацця, якая месціцца ў пісьмовых творах хрысціянскага Усходу, з якой мы можам карыстацца і сёння.

Праца а.Шпідліка можа быць навучальным дапаможнікам для студэнтаў багаслоўя і семінарыстаў, а таксама настольнаю кнігаю для кожнага, хто цікавіцца ўсходняй духоўнасцю, царкоўнай гісторыяй і філасофіяй. Украінскае выданне гэтай кнігі сталася магчымае дзякуючы падтрымцы *«Centro Aletti»* — навукова-даследніцкага цэнтру пры Папскім Арыентальным Інстытуце.

# Ераманах Бенядзікт — новы ігумен манахаў студытаў

17 красавіка ў Свята-Успенскай Уніўскай Лаўры на Украіне адбыліся чарговыя выбары ігумена — кіраўніка ўсіх супольнасцяў манахаў Студыцкага закону. Новым ігуменам тэрмінам на 5 гадоў абраны ераманах Бенядзікт (Валеры Алексійчук), які ў апошні час узначальваў місійную станцыю айцоў-студытаў пры манастыры святых Антонія і Тэадозія у г.Сэнт-Кэтэрынс (Канада), што за 70 км ад Таронта.

Новы ігумен студытаў айцец Бенядзікт (ва ўкраінскай царкоўнай традыцыі — Венядзікт) добра вядомы ў Беларусі. Ён прыклаў шмат намаганняў для наладжвання царкоўнага і літургічнага жыцця грэка-каталіцкіх супольнасцяў у Беларусі, і таму мае вялікі аўтарытэт ды павагу сярод беларускіх грэка-католікаў, добра ведае іх праблемы.

Упершыню айцец Бенядзікт трапіў у Беларусь у 1993 годзе на свята Язафата, а ў ліпені 1994 году ён прыехаў і пасяліўся ў Полацку, каб наладзіць тут сталае рэлігійнае жыццё ў мясцовай парафіі і дапамагчы беларусам заснаваць у гэтым горадзе манаскую супольнасць айцоў-студытаў. Было яму тады 26 гадоў. Ведаючы вялікую патрэбу нашай Царквы ў святарах, айцец Бенядзікт шмат ездзіў па Беларусі, задавальняючы духоўныя патрэбы вернікаў не толькі ў Полацку, але і ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, Берасці ды іншых мясцінах Беларусі. Украінец паходжаннем, ён са шчырай спагадай і разуменнем паставіўся да жывой патрэбы беларускіх вернікаў — маліцца ў сваёй Царкве па-беларуску — і імкнуўся несці Слова Божае ў роднай для беларусаў мове. На вялікі жаль, беларускія ўлады не надта прыхільна сустрэлі актыўную дзейнасць гэтага ахвярнага манаха-украінца, які прыкладаў вялікія намаганні, каб спрыяць адраджэнню духоўнасці сярод нашага народу. Пэўна, «народ гэты асляпіў вочы свае і скамяніў сэрца свае» *(Ян 12, 40)*. Неаднойчы чыноўнікі нават патрабавалі, каб айцец Бенядзікт пакінуў Беларусь. Хацелася б верыць, што тыя людзі не ўсведамлялі, што рабілі бо, «хто ходзіць у цемры, не ведае, куды ідзе» *(Ян 12, 35)*.

Немалая заслуга айца Бенядзікта і ў стварэнні грэка-каталіцкай газеты «Царква». З ягонай ініцыятывы гэтая газета і ўзнікла. У сакавіку 1995 году выйшаў першы нумар «Царквы». Ераманах Бенядзікт (тады яшчэ Валеры) Алексійчук стаў першым галоўным рэдактарам «Царквы». Да 1996 году рэдакцыя газеты «Царква» знаходзілася ў Полацку і выдавалася з дапамогай менскай моладзі.

Пасля 2 гадоў працы ў Беларусі на пачатку 1997 году айца Бенядзікта накіравалі ў Канаду для заснавання там манастыра студытаў. Але і там ён не забываў пра беларусаў, увесь час цікавіўся жыццём нашае Царквы, удзельнічаў у паломніцтвах, якія ладзілі беларускія грэка-католікі ў Канадзе. Увогуле, як сказаў айцец Бенядзікт у свой час у інтэрв'ю «Віцебскаму кур'еру», Полацак стаўся для яго родным горадам, гэта месца ягонага жыццёвага фармавання. «У Беларусі вельмі цяжка... Тут, на Беларусі, маеш сапраўднае выпрабаванне,— сцвярджае айцец Бенядзікт.— Там, дзе цяжка, там бліжэй да Бога. Я гэта ўжо ведаю. Калі цяжка, ты адчуваеш толькі Яго дапамогу. Тут мне было прасцей, чым у Канадзе».

Дарэчы, ужо на пачатку лета новы ігумен манахаў Студыцкага закону плануе адведаць студыцкую супольнасць у Полацку.

Пажадаем жа айцу Бенядзікту Божага блаславення і заўсёднай падтрымкі ў ягонай працы на такой адказнай пасадзе!

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ), Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (КАІ) і іншых прэсавых крыніцаў.*

# Быў чалавекам малітвы і пакуты

*Беатыфікацыя айца Піо з П'етральчыны*

У нядзелю 2 траўня 1999 году адбывалася ў Рыме штосьці незвычайнае. Ужо даўно Рым не бачыў, каб цэлая плошча св. Пятра ды вуліца дэлля Канчыляцёнэ (галоўная вуліца, якая вядзе да Ватыкану) былі так шчыльна запоўненыя ўдзельнікамі папскае св. Літургіі. Тыя, што не змаглі змясціцца вакол Ватыкану, сабраліся на плошчы перад базілікаю св. Яна на Латэране. Таксама перад базілікаю ў Сан Джавані Ратонда — у мясцовасці, якая ляжыць некалькі сотняў кіламетраў ад Рыму,— сабраліся некалькі тысячаў пілігрымаў, каб сачыць на спецыяльных экранах ход падзеяў на плошчы св. Пятра. Што склікала гэтыя натоўпы людзей і чаму менавіта ў тых мясцінах? Людзі прыбылі з усяго свету, каб стаць сведкамі вельмі важнай падзеі — вынясення на алтар славы асобы італійскага манаха з ордэну Братоў Меншых Капуцынаў, стыгматыка, айца Піо з П'етральчыны. У часе Боскае Літургіі, калі адбылася беатыфікацыя, Папа падкрэсліў, што «айцец Піо з П'етральчыны — убогі францішканскі манах — сваім жыццём, цалкам ахвяраваным Богу, малітве і слуханню братоў, поўнасцю зачараваў свет». У трапнасці гэтых словаў можна было пераканацца, гледзячы на натоўпы вернікаў, якія прыбылі на гэтыя ўрачыстасці. Думаю, што чытачам і вернікам нашае Царквы будзе цікава даведацца больш пра гэтую адметную постаць.



Святасць у Царкве Хрыстовай, як і сама Царква, мае характар паўсюдны. Таму прыклад кожнага святога, незалежна ад абраду, часу ці краіны, сведчыць аб адным — аб праўдзівасці Евангелля. І гэта ў поўні адносіцца да асобы благаславёнага падрэ Піо.

Нарадзіўся гэты верны паслядоўнік св. Францішка з Асізу 25 траўня 1887 году на поўдні Італіі, у мястэчку П'етральчына. Быў ён пятым дзіцем у беднай сялянскай сям'і Фарджонэ. На св. Хросце атрымаў імя Франчэска. Ужо ў дзяцінстве адзначаўся пабожнасцю, марыў, каб стаць святаром. Таму, маючы 16 гадоў, уступіў у Ордэн Капуцынаў, дзе прыняў імя Піо, што значыць пабожны. У 1907 годзе ў манастыры ў Сан Джавані Ратонда даў свае вечныя манаскія абеты. 10 жніўня 1910 году здзейснілася ягоная мара — ён атрымаў святарскія свячанні. З дзяцінства айцец Піо не адрозніваўся моцным здароўем і хутка яго святарскі шлях атрымаў знакі пакутаў. Яснела ў ім цнота мужнасці. Ён вельмі рана зразумеў, што будзе ісці шляхам Крыжа, і пайшоў па ім адважна і з любоўю. Кульмінацыйным момантам ягонага святарства сталася справаванне Боскае Літургіі і поўная пакуты служба ў спавядальніцы. Спосаб, у які падрэ Піо справаваў св. Ахвяру, прыцягваў вялікую колькасць вернікаў — напачатку з ваколіцаў, а пазней з усёй Італіі і з іншых краінаў свету. У хуткім часе ўзнікла неабходнасць будаўніцтва новае святыні, якая сёння называецца базілікай у Сан Джавані Ратонда. Але не толькі гэта прыцягвала людзей сюды. Айцец Піо стаўся лекарам і знаўцам чалавечага сумлення. Пры ягонай спавядальніцы дзеяліся сапраўдныя цуды ажыўлення скамянелых сэрцаў грэшнікаў і з'яднанне іх для Бога і Царквы Хрыстовае. Ён любіў бліжняга па-над усім, прыймаючы на працягу 50 гадоў натоўпы людзей, якія ішлі да яго, каб атрымаць параду і суцяшэнне. А ён аддаваўся ўсім, ажыўляў веру, раздзяляў ласку, несучы святло.

Столькі людзей, што сустрэліся з ім, аднавілі сваю веру. Тым, што прыбывалі да яго, ён прапаноўваў шлях святасці, паўтараючы ім: «Здаецца, што Ісус не мае іншага клопату, апрача як збаўленне вашых душаў...» І, дзякуючы гэтаму закліку, у кожным кутку свету ствараліся малітоўныя групы.

Галоўнай рысай ягонае духоўнасці быў Крыж Гасподні і памяць пра пакуты Збаўцы. Нягледзячы на слабое здароўе, ён праз усё сваё манаскае жыццё практыкаваў найбольш суровую аскезу, якой заўсёды адзначаўся Ордэн Капуцынаў. І Бог абдараваў яго асаблівай ласкай — з 1915 году і да канца свайго жыцця айцец Піо меў на сваім целе асаблівыя знакі Хрыстовых ранаў — так званыя стыгматы — спачатку нябачныя на далонях, а з 20 верасня 1918 году — крывавыя стыгматы на руках і нагах — на месцах ранаў, якія Збаўца атрымаў на Крыжы. Праз шмат гадоў ён перажываў духовыя пакуты, а боль сваіх ранаў трываў з дзіўнай цярплівасцю. Людзі з усяго свету зразумелі, што стыгматы айца Піо не могуць быць вытлумачаныя як «просты знак веры», але як знак ягонай асаблівай місіі ў свеце, місіі быць укрыжаваным для здзяйснення Уваскрасення. Ён меў таксама іншыя надпрыродныя дары, але заўсёды лічыў сябе за непатрэбнага і недастойнага, паўтараючы: «Жадаю быць убогім братам, які моліцца». Праз тры гады пасля ягонае смерці, у 1968 годзе, Папа Павел VI даў пра яго наступнае сведчанне: «Паглядзіце, якую ён меў славу, як шмат людзей з'яднаў каля сябе! Але чаму? Можа, быў філосафам? Можа, быў мудрацом? Можа, меў якія сродкі да выкарыстання? Таму, што пакорна справаваў Св. Імшу, спавядаў ад раніцы да вечара і быў, цяжка гэта выказаць, пазначаны стыгматамі нашага Госпада Ісуса Хрыста. Быў чалавекам малітвы і пакуты».

Аднак балючыя і па-чалавечы больш адчувальныя былі выпрабаванні, якія ён мусіў зазнаць з прычыны, можна так казаць, паасобных дароў. У гісторыі святасці часам так здараецца, што асоба, выбраная праз асаблівую спагадлівасць Бога, сустракаецца з неразуменнем. Што да айца Піо, то паслухмянасць сталася для яго агнём ачышчэння, шляхам, які вядзе да паступовага ўпадаблення да Хрыста і ўмацавання сапраўданай святасці.

Трываючы ў малітве, ён заставаўся таксама ўважлівы і да патрэбаў свету. У 1940 годзе, калі ў Еўропе шалела вайна, айцец Піо пачаў будаўніцтва новае бальніцы, якую назваў «Домам Палёгі ў Цярпенні». Жадаў, каб гэта бальніца

Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх павучанняў»

# «Але святар — гэта яшчэ не ўся Царква!»



*Дарагі Альберта!*

*Мне 17 гадоў, я з Ліворна, маё імя Франчэска.*

*Мне вельмі прыемна, што ты, Альберта, так ставішся да моладзі, прымаючы блізка да сэрца нашыя штодзённыя праблемы. На жаль, сустракаюцца людзі, якія думаюць пра нас толькі тады, калі ім гэта трэба, а не тады, калі ў нас праблемы.*

*Такога тыпу людзі сустракаюцца і сярод святароў: гэта, напрыклад, айцец ..., які прыйшоў на змену ..., двум вялікім сябрам нашай маладзёвай суполкі і ўсёй парафіі.*

*З гэтымі двума святарамі ў мяне і двух іншых хлапцоў наладзіліся сяброўскія адносіны, якія базуюцца на ўзаемнай павазе. На працягу году яны імкнуліся накіраваць нас на жыццёвы шлях, які мы маглі б прайсці ўсе разам, і далучыць нас да вырашэння праблемаў, што абрынуліся на нашае грамадства, такіх, як насілле, наркотыкі, адчужанасць і г.д. Яны вучылі нас дапамагаць тым, хто ў гэтым мае патрэбу. На жаль, пасля таго, як іх перавялі ў іншую парафію, усё гэта стала немагчымым, і мы, хлапцы з суполкі, пачалі аддаляцца ад парафіі, збіраючыся ў вольны час у бары.*

*Ведаю, што ў цябе шмат справаў, але мне хацелася б сустрэцца з табою, каб паціснуць табе руку.*

***Твой сябра Франчэска***

Мой дарагі!

Атрымаў твой ліст; чытаў яго і перачытваў. Найперш хацеў бы табе сказаць , што сапраўды ў святароў могуць быць розныя погляды на штосьці, але гэта яшчэ не прычына для таго, каб пакідаць агароджу Царквы. Царква больш за святара, які яе прадстаўляе; і наогул, Царква — гэта не толькі святар. Святар і ягонае служэнне — гэта прылада, якую Госпад дае мне, каб я ўзрастаў у веры, каб мог стацца хрысціянінам у поўным сэнсе слова. Я б нават сказаў, што чым больш слабым ці абмежаваным, ці няздольным знайсці агульную мову з пэўнымі коламі робіцца святар, тым больш рашучым павінен быць міранін (нават такі юны , як ты) — каб, звярнуўшыся да святара, сказаць яму, што ён думае, як ацэньвае тое, што ён робіць. Святар не павінен выхваляцца непамыльнасцю, прэтэндуючы на гэта, ён ніколі не знойдзе разумення ні ў тых, хто яго крытыкуе, ні ў тых, хто аказвае яму падтрымку.

Таму парада мая такая: аднаві сваё парафіяльнае жыццё — нават калі больш няма святароў, з якімі ў цябе ўсталяваліся такія надзвычай добрыя адносіны.

Калі ж у цябе ўсё роўна аніяк не наладзяцца адносіны з новым парахам, знайдзі сабе іншую парафію, але абавязкова такую, дзе б ты не быў самотны. Хрысціянін не існуе па-за сваёй грамадой: хрысціянін гэта заўжды «мы», у якім натуральна выдзяляюцца ўсе добрыя якасці, у тым ліку і добрыя якасці «я».

Ты кажаш, што хочаш са мной спаткацца; патэлефануй, і дамовімся пра сустрэчу.

Прымі маё блаславенне,

**† Альберта**

---

была найвышэйшага рангу, але турбаваўся перад усім пра тое, каб прымянялі ў гэтай бальніцы медыцыну сапраўды «чалавечую».

Адной з неабходных умоваў для абвяшчэння бласлаўёным з'яўляецца наяўнасць цуда (найчасцей — цудоўнага ацалення), здзейсненага праз малітвы кандыдата на беатыфікацыю. У справе беатыфікацыі айца Піо важную ролю адыграў Папа Ян Павел II. У 1947 г. малады святар Караль Вайтыла спавядаўся ў яго, а ўжо будучы Кракаўскім біскупам, ён напісаў падрэ Піо ліст з просьбай маліцца за ягонага сябра, які быў хворы на рак горла. Праз 11 дзён хвароба бясследна знікла. Такіх прыкладаў ёсць некалькі, адзін з іх — сведчанне 12-гадовай дзяўчынкі Кэрылі Фэнтан з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, якая практычна згубіла зрок у 3-гадовым узросце. Яна раптоўна ацалілася пасля малітоўнага звароту яе родзічаў да падрэ Піо.

На жаль, у невялікім нарысе немагчыма паказаць усё багацце і шматграннасць асобы блаславёнага айца Піо — гэта задача для вялікай кнігі, а можа, і не адной. Можа, хутка ўбачым такую літаратуру і на нашай мове.

*Паводле матэрыялаў Беларускай секцыі Радыё Ватыкан падрыхтаваў* ***Зміцер Грышан***

# Прэзентацыя «Духовага дзённіка» блаславёнага Юрыя Матулевіча

11 траўня 1999 году ў Менску Супольнасці Айцоў Марыянаў і Сясцёр Еўхарыстак арганізавалі прэзентацыю нядаўна надрукаванага «Духовага дзённіка» блаславёнага Юрыя Матулевіча, які выйшаў на беларускай мове. Прэзентацыя кнігі адбылася ў рамках канферэнцыі, якая прайшла ў менскай катэдры. Пасля прынагоднай Святой Імшы, якую адслужылі кардынал Казімір Свёнтак і Апостальскі нунцый архібіскуп Дамінік Грушоўскі, былі прачытаныя рэфераты «Юры Матулевіч як пастыр» (дакладчыкам быў старшыня Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі д-р Янка Трацяк) і «Актуальнасць постаці блаславёнага Юрыя Матулевіча». Ва ўрачыстым мерапрыемстве ў катэдры ўзялі ўдзел сёстры-еўхарысткі з кляштараў у Барысаве, Полацку, Астраўцы, Браславе, а таксама беларускія клерыкі-марыяне, якія вучацца ў Любліне.

Галоўнай справай свайго жыцця блаславёны Юры Матулевіч лічыў адраджэнне закону марыянаў, хаця яму давялося працаваць «для Хрыста і Царквы» ў розных сферах грамадскага і царкоўнага жыцця. Супольнасць марыянаў пакінула значны след у гісторыі Царквы ў Беларусі. Марыянамі былі беларускі біскуп на эміграцыі Часлаў Сіповіч, гісторык і багаслоў а. Леў Гарошка, а. Язэп Германовіч (пісьменнік Вінцук Адважны). Сёння Апостальскім візітатарам для грэка-католікаў у Беларусі з'яўляецца таксама марыянін архімандрыт Сяргей Гаек.

**Сяргей Стасевіч**
*г. Менск*

***— У наш час з'явілася шмат сектаў. Ёсць нават такія, што называюць сябе хрысціянамі, але такімі на справе не з'яўляюцца. Некаторыя людзі ў сувязі з такой небяспекай вельмі насцярожана ставяцца і да ўніятаў, да нашай невялікай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.***

— Калі гэта хрысціяне, то якой бы малалікай гэта Царква не была, гэта ўжо не секта. А секта мае свае прыкметы. пратэстантамі, праваслаўнымі можам разам ісці, скажам, у турму і несці Святое Пісанне ці проста паразмаўляць са зняволенымі — гэта вельмі добра. Я ведаю, што раней так было, што айцец Ян Матусевіч хадзіў разам з іншымі сябрамі Біблійнага таварыства. Я ведаю, што сёння ў турмах ёсць праваслаўныя цэрквы, цяпер ёсць праблемы, каб трапіць у такія ўстановы пратэстантам ці католікам. Але гэта глупства! Ёсць яшчэ адзін добры прыклад супрацоўніцтва розных

***— Нас, грэка-католікаў, часам папракаюць празелітызмам. Але як вызначыць тую мяжу, дзе місіянерская дзейнасць, а дзе празелітызм?***

— Калі чалавек, які быў ахрышчаны ў праваслаўнай царкве, у нашай Царкве пазнае Бога, я лічу, ён мае права рабіць свой выбар, і гэты выбар натуральны — Хрыстос яго ўжо выбраў. У сваіх асабістых сустрэчах з людзьмі я нікога не агітую. Быў канкрэтны выпадак, калі я ехаў у цягніку з сябрам з Берасця

# «Наша задача – сведчыць Ісуса Хрыста»

***Працяг размовы ў рэдакцыі «Царквы» з навасвятаром БГКЦ а. Андрэем АБЛАМЕЙКАМ***

Калі ж некаму прыйшло ў галаву назваць нас сектантамі, то гэта проста неадукаваны чалавек, які не разумее, што можна назваць сектай. Наша Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква не мае ніводнай прыкметы секты. Мы цалкам вызнаны Апостальскай Сталіцай. Мы цалкам прытрымліваемся апостальскай традыцыі. Мы апостальская Царква. Наша Царква, наша традыцыя бярэ свой пачатак не з 1596 году. Наша Царква бярэ свой пачатак значна раней, ад Хрыста, Госпада нашага, ад апосталаў, ад праайцоў. Мы — Хрыстовая Царква, мы — новазапаветная Царква. Яшчэ раз падкрэсліваю: наш пачатак не ў 1596 годзе, як памылкова лічаць многія. Калі нехта нас называе сектай, ну што ж, трэба тлумачыць, бо наша задача таксама асветніцкая.

***— Як бачацца маладому беларускаму грэка-каталіцкаму святару праблема экуменічных стасункаў з іншымі канфесіямі ў нашых сённяшніх беларускіх умовах, бо ёсць толькі адна Царква, якая карыстаецца падтрымкай дзяржавы, пра якую можна нават сказаць, што яна адзяржаўлена? Да таго ж экуменізм цяпер не ўсімі вітаецца.***

— Мы ўжо маем і прыклады, і плён ад такіх стасункаў з іншымі Цэрквамі. Ёсць прыклады супрацоўніцтва ў Біблійным таварыстве. Гэта і сумеснае распаўсюджванне Святога Пісання, і пераклад яго на беларускую мову. Раней, 20 гадоў таму, Біблія была пад забаронай і адзінкі мелі яе і маглі чытаць. Сёння ж іншыя часы. Але за некалькі месяцаў сваёй працы як святара я ўжо сустрэў дзясяткі людзей па ўсёй Беларусі, якія не чыталі Біблію, якія ведаюць, што такое Біблія, але не могуць адрозніць Новы запавет ад Старога Запавету, ці ўвогуле не маюць ніякага ўяўлення пра Біблію. І калі мы разам з



канфесіяў — Фонд у абарону ненароджанага жыцця. Там і праваслаўныя, і католікі, і грэка-католікі.

Іншая справа, што ёсць нейкая частка Праваслаўнай Царквы, у якой лічыцца нармальным нават паліць кніжкі айца Аляксандра Меня ці айца Шмемана. Гэта само за сябе гаворыць. Гэта звычайнае «мракобесие». Гэтае расейскае слова вельмі добра перадае сэнс гэтае з'явы. Але ёсць і нармальная частка. Тут справа не ў тым, прагрэсіўны чалавек ці непрагрэсіўны. Трэба глядзець, ці гэты чалавек праўдзівы вернік, ці пазнаў Бога, ці ён проста абрадаверац, ці ён проста выбраў сабе спецыяльнасць — «свяшчэннаслужыцель».

Мы адкрыты да супрацоўніцтва з усімі: і з праваслаўнымі, і з пратэстантамі, і з нехрысціянамі, і з бязбожнікамі, і з ваяўнічымі атэістамі. Калі ідзе размова пра тое, каб зрабіць дабро, прынесці людзям частку любові Божай, то не важна, з кім ты гэта зробіш. Трэба быць заўсёды адкрытым на тое, каб любіць бліжняга свайго. Трэба рабіць, працаваць і жыць для Беларусі, для беларускага народу. Бог паклікаў нас да жыцця беларусамі, і мы павінны працаваць для свайго народу.

да Менску, разам з намі ў купэ была жанчына, якая пабачыла ў нас крыжыкі і спытала: «Хлопцы, а вы што — веруючыя?» Мы кажам: «Так, веруючыя». Яе вельмі здзівіла, што такія маладыя і веруючыя. Яна была праваслаўная, хадзіла ў царкву па вялікіх святах, выконвала пэўныя абрады. Пачалі гаварыць з ёй, а яна мела пэўныя свае праблемы. Мы расказалі ёй пра Хрыста, пра тое, што ў Бібліі напісана, прытчу расказалі ёй, што добра стасавалася да яе праблемы. Дык яна сказала: «О, гэта, напэўна, другі хрост для мяне! Я такога ніколі не чула». Я не меў ніякага маральнага права сказаць той жанчыне «прыходзь да нас у царкву», але сказаў, што яна павінна хадзіць у сваю царкву, прычашчацца Тайнаў Хрыстовых, трэба пайсці да праваслаўнага бацюшкі на споведзь, зрабіць пэўныя рэчы. Я думаю, што яна зрабіла тое, што я ёй параіў.

Я лічу так: я католік і веру, што ў Каталіцкай Царкве ёсць поўня праўды пра Бога і поўня праўды пра Царкву Хрыстову. Лічу, што Каталіцкая Царква сапраўды з'яўляецца той адзінай святой паўсюднай і апостальскай Царквой. Тым не менш лічу таксама, што Хрыста можна пазнаць і ў Праваслаўнай Царкве, і ў Пратэстанцкай Царкве, і праз гэта атрымаць збаўленне. Новы Ерусалім — гэта Царква Хрыстовая, а не царква баптысцкая, праваслаўная ці каталіцкая. І толькі Госпад будзе вырашаць, хто будзе ў Новым Ерусаліме і хто будзе збаўлены. Таксама лічу, што найлепшай справай будзе, калі мы дапаможам Праваслаўнай Царкве ажывіць іхнюю веру. Ніколі не хачу прыйсці ў праваслаўную царкву і сказаць: «Прыходзьце да нас, у нас праўда». Я ведаю, што і там ёсць Ісус Хрыстос, а Ён прывядзе да Праўды. Я мушу сведчыць толькі сваю традыцыю, што я ёсць католік усходняга, візантыйскага абраду. Сёння мы павінны весці дыялог, слухаць і пазнаваць адзін аднаго.

***— Сёння шмат гавораць пра пакаянне...***

— Пакаянне — гэта важна, мы не павінны баяцца каяцца. Я лічу, што ўвогуле пакаянне — гэта рухавік нашага жыцця. Мы ўсе павінны пакаяцца і прабачыць. Прабачыць камусьці, хто каецца, і самому пакаяцца. Гэта рухавік нашай цывілізацыі, гэта тое найважнейшае, што дае нам магчымасць далей жыць. Бог нам даў такую магчымасць — каяцца і прабачаць.

***— Напэўна, усе праблемы чалавека таму, што ён не ўмее прабачаць правіны, часам нават дробныя...***

— Так, сапраўды. І менавіта гэтаму мы павінны вучыць людзей. І ў гэтым я бачу адну са сваіх асабістых задачаў як святара і задачу нашай Царквы. Мы павінны сведчыць Хрыста. Не толькі святар мусіць сведчыць, але і ўсе нашыя парафіяне. Кожны павінен сведчыць на сваім месцы.

Мяне сёння не турбуе, што мы маем толькі 15 парафіяў і яшчэ колькі місійных пляцовак. Мы пайшлі іншым шляхам — не шляхам колькасці, але шляхам якасці. Калі мастак — наш парафіянін, ягоныя карціны не павінны быць абавязкова на біблейскія сюжэты, але ягоныя карціны павінны заклікаць, весці людзей у храм. Калі гэта паэт — неабавязкова ягоны твор павінен быць нейкай малітвай вершаванай, але ягоныя вершы павінны весці людзей у храм, павінны адкрываць Бога для людзей. Калі гэта кінарэжысёр — ягоныя фільмы павінны весці людзей да Бога. Нават любы просты чалавек— павінен сведчыць Ісуса: Госпад зрабіў для мяне тое і тое. Скажам, я быў п'яніца — сёння я здаровы. Кожны павінен сведчыць Ісуса ў сям'і, на працы. Глядзіце, я раней сварыўся на вас, не мог дараваць чагосьці — сёння я прашу прабачэння ў вас. Вось чым павінны займацца нашыя святары і вернікі сёння.

***— Але нашай Царкве вельмі не хапае пакуль святароў.***

— Безумоўна, мы мусім маліцца за тое, каб былі пакліканні да святарства, бо сёння іх недастаткова. Асабіста я атрымаў ад Госпада тры парафіі. З'яўляюся душпастырам у Менску, Маладэчне і Лідзе. Шмат людзей ахапіць вельмі няпроста. Бо я, напрыклад, мушу займацца самымі рознымі справамі: і нядзельнай школкай для дзетак, і катэхезай для дарослых, і думаць пра будаўніцтва, і казанне падрыхтаваць (сваё для кожнай парафіі), хору дапамагчы, і споведзь выслухаць, і гэта акрамя самой малітвы. Такой ёсць мая сённяшняя святарская праца.

Мы сёння гаворым пра хатнюю царкву. Зразумела, што калі чалавек лічыць сябе хрысціянінам, грэка-католікам — перадусім у яго павінна быць наладжана малітва дома, малітва сямейная. Уся сям'я павінна маліцца, разам павінны разважаць над Бібліяй, чытаць духоўныя кнігі і г.д. І калі няма ў ягоным месцы нашай грэка-каталіцкай грамады, ён павінен хоць раз на Пасху, на вялікае свята выехаць на грэка-каталіцкую літургію ў Менск ці Берасце, каб паспавядацца і прычасціцца. Гэта цалкам магчыма амаль для кожнага. Трэба і нам маліцца за тых людзей, каб мацавалася іхняя вера, але і ім неабходна маліцца, каб была магчымасць стварыць там сваю суполку, каб з'явілася магчымасць даязджаць туды і святару часам. А калі ёсць магчымасць — добра ў пэўным коле практыкаваць такія формы супольнай малітвы, як абедніца, акафіст, іх можна служыць і без святара. Сёння нават унутры парафіі Каталіцкая Царква падтрымлівае стварэнне малых малітоўных групаў. І ўнутры іх можна выкарыстоўваць самыя розныя формы душпастырскай працы і супольнай малітвы.

***— Вам давялося жыць і вучыцца за мяжой, была магчымасць назіраць рэлігійнае жыццё. Што з тых формаў працы з вернікамі варта было б пераняць?***

— Напэўна, цікавым быў бы для нас вопыт інстытута дыяканства ў Чэхіі. Калі ў парафіі няма святара, вельмі важна мець асобу, якая б усіх арганізоўвала. Бо і ў чэхаў ёсць мясцовасці, дзе адзін святар абслугоўвае шмат парафіяў. І дыякан тут аказвае вялікую дапамогу. Ён стала жыве ў парафіі, вядзе катэхізацыю, рыхтуе дзяцей да Першага Прычасця й Споведзі, адказвае за пастаянную малітву ў храме. Таксама я сустракаў у Чэхіі парафіі, дзе няма нават і дыякана, дзе ёсць група моладзі, нейкая сям'я ці асобныя свецкія лідары, якія пастаянна адказваюць за малітву, даглядаюць храм, вядуць катэхізацыю і г.д.

Увогуле, чэхі і беларусы вельмі падобныя тым, што вялікае распаўсюджванне ў нашых краінах атрымаў дух бязбожніцтва. Раздумваючы над гэтай праблемай, яе прычынамі, параўноўваючы, я заўважыў наступнае. Калісьці ў беларусаў гвалтоўна адабралі Унію. Людзі гэта ўспрынялі не проста як змену назвы «грэка-католік» на «праваслаўны». Ім памянялі абрад, у якім тады былі арганы, паставілі іканастасы, з Расеі прыехалі чужыя святары, якія насілі іншую вопратку, яны палілі нашы царкоўныя кнігі і замянілі іх сваімі, маскоўскімі, кнігамі. У тых людзей проста адабралі іхнюю веру — менавіта так гэта ўспрынялі людзі. Вельмі вялікі быў тады супраціў у Беларусі. У людзей быў падсвядомы недавер і непрыняцце, якое перадавалася часта з пакалення ў пакаленне. І калі прыйшлі бальшавікі, яны трапілі на вельмі добрую глебу. (У адрозненне ад нас, у Расеі прычыны бязбожніцтва крыюцца найперш у страшэнна распаўсюджаным там п'янстве). І сёння стаіць задача неяк ажывіць хрысціянскую веру ў Беларусі. Важна, што мы падыходзім да Хрыста ў свой, нацыянальны спосаб.

Тая самая праблема і ў чэхаў. Сёння ў Чэхіі прыкладна пароўну католікаў і пратэстантаў. Але там была гвалтоўная рэкаталізацыя, калі людзей вярталі ў Каталіцкую Царкву, бо ў сярэднявеччы, дзякуючы дзейнасці Яна Гуса, Чэхія (за выключэннем Маравіі) стала пераважна пратэстантанцкай.

У Польшчы ж зусім іншая сітуацыя. Я пабачыў там багацце каталіцкай традыцыі, бо краіна заўсёды была каталіцкай. Каталіцтва для палякаў было духам свабоды. Сёння Польшча самая місійная краіна ў свеце.

***— Вучоба, напэўна, дала магчымасць Вам добра пазнаёміцца з украінскімі, чэшскімі і славацкімі грэка-католікамі. Параўноўваючы нас з імі, у чым Вам бачыцца нашая тоеснасць, ідэнтычнасць. У чым нашая беларуская адметнасць у візантыйскім абрадзе?***

— Калі нас параўноўваць з украінцамі, перш за ўсё мы адрозніваемся ад іх тым, што карыстаемся новым грыгарыянскім календаром. У іх — юльянскі. Калі нас параўноўваць са славакамі — мы сёння больш аўтэнтычныя ў захаванні візантыйскага (грэцкага) абраду. У апошні час славацкія грэка-католікі ўнеслі шмат розных зменаў у Літургію. Адбывалася так бы мовіць нацыяналізацыя абраду, зроблены чарговы крок да асіміляцыі візантыйскага абраду, бо было ўведзена шмат мясцовых традыцыяў. Калісьці гэта адбылося і ў Беларусі. Іншая справа, што не заўсёды гэта адбывалася натуральным шляхам. Але сёння я не хацеў бы акцэнтаваць увагу на абрадзе, бо не гэта самае галоўнае. Галоўнае — вера, галоўнае — сведчыць Хрыста.

***Шчыра дзякуем айцу Андрэю Абламейку за гэтую размову ў рэдакцыі «Царквы». Ад імя ўсіх нашых чытачоў і вернікаў зычым Вам, айцец Андрэй, поспехаў у працы на ніве Гасподняй, каб шырылася вера сярод беларусаў і квітнела наша родная Беларусь.***

# Расіца:
## смерцю смерць перамогшы

Пагодным ранкам 21 красавіка, памаліўшыся перад дарогай, мы, полацкія грэка-каталікі, выбраліся ў матарызаваную пілігрымку да вёскі Расіца (менавіта гэтак, з націскам на другі склад, завуць яе мясцовыя жыхары, і мы мусім трымацца традыцыі), што знаходзіцца недалёка ад мяжы з Латвіяй. Для сённяшняга нашага духоўнага жыцця гэтае месца мае вялізнае значэнне, бо тутака 17 і 18 лютага 1943 году беларускія святары Антон Ляшчэвіч і Юры Кашыра аддалі свае жыцці за любых парафіянаў. Не спужаліся смерці і, паводле словаў Хрыстовых, як «добры пастыр душу сваю за авечак кладзе» (Ян 10, 11) сябе прынеслі ў ахвяру. О, святая Полацкая зямля, колькі пакутнікаў аддалі тут жыцці свае дзеля Боскае славы: св. Язафат, полацкія базыльяне і вось айцы-марыяне.

Расіцкая парафія цікавая і тым, што за часы Рэчы Паспалітай была ўніяцкай. Але пасля першага падзелу на далучаных да Расеі землях акупацыйныя ўлады пачалі прымусова — з дапамогаю войскаў — перакручваць вернікаў на праваслаўе, і адзіным выйсцем, каб запабегчы гэтаму і захаваць сваю веру, было прыняцце лацінскага абраду. Пры садзейнічанні ўладальніка маёнтка Т.Лапацінскага і з дапамогай асвейскіх місіянераў парафія колькасцю 248 двароў увосень 1780 г. прыняла лацінскі абрад. Не апошняя была роля, пэўна, тут і Язэпа Лапацінскага, які атрымаў біскупскі сан за сваю ахвярную дзейнасць на карысць Каталіцкай Царквы. Ён пахаваны († 1792 г.) побач з храмам.



*Расіца, 21.04.1999. Крыж на месцы, дзе была хата сп.Гадзюкоў, у якой разам з 30 вяскоўцамі быў спалены а. Юры Кашыра*

У Дрысе (цяперашнім Верхнядзвінску) мы сустрэліся з Антонам Францавічам Бублам — укладальнікам кнігі «Памяць» Верхнядзвінскага раёну, які паведаміў, што ягоны артыкул пра святароў А.Ляшчэвіча і Ю.Кашыру выкрэслены менскімі цэнзарамі. Магчыма таму, што іхні велічны ўчынак не змяшчаецца на пракруставым ложы афіцыйнае канцэпцыі.

Доўга ў Дрысе не затрымаўшыся, накіроўваемся ў вёску Навікі, якая непасрэдна злучаная з лёсам місіі, бо тут сёстры-еўхарысткі ў жніўні-кастрычніку 1941 году навучалі жыхароў навакольных вёсак і мястэчак — Цінкаўцы, Баліны, Бігосава — галоўным праўдам веры. Раз у два тыдні людзей лодкамі перавозілі на левы бераг Дзвіны да Лявонпаля, былога маёнтка паноў Лапацінскіх. Айцымарыяне з Друі Антон Ляшчэвіч ці Лявон Лаўцэвіч спавядалі, хрысцілі і выконвалі іншыя абрады. Пастаяўшы на дзвінскім беразе і паглядзеўшы на белы палац Лапацінскіх насупраць, рушылі да хаткі, якая стаіць ля самага шляху з варагаў у грэкі, што засведчана прыбітаю да яе шыльдай, і дзе жыве Сяргей Сцяпанавіч Панізьнік. У 1992 г. выйшла кніга гэтага пісьменніка «Асвейская трагедыя» пра фашыстоўскую карную акцыю машыны смерці, што прайшлася паласой 15-20 км уздоўж мяжы з Латвіяй ад Дзвіны да Асвейскага возера. Падчас гэтай карнай аперацыі былі выпаленыя і знішчаныя больш за 60 вёсак разам з жыхарамі. Тым велічней на гэтым фоне перамога двух мужных ваяроў Хрыстовых з Расіцы над жудаснай машынай смерці. Спадар Сяргей Панізьнік правёў нас па сваім невялічкім музеі, дзе экспазіцыя ў адным з пакойчыкаў прысвечаная менавіта гэтым жалобным падзеям. Па сканчэнні агляду была размова пра трагічны лёс як тых, што загінулі ў лютым 1943 году, гэтак і тых, хто выжыў і прайшоў лагеры Саласпілсу, Майданку, Равенсбруку. Ахвяры гэтай жудаснай нялюдскай акцыі сталіся адарванымі ад роднай зямлі і былі расцярушаныя па ўсім свеце. Цёпла развітаўшыся са спадаром Панізьнікам, мы рушылі ў накірунку Расіцы.

Расіца — мэта нашае пілігрымкі. Сюды ўвосень 1941 году прыехаў айцец Антон Ляшчэвіч. З ім былі айцы Уладзіслаў Лашэўскі і Фелікс Чачот. Айцец Уладзіслаў выехаў да Зашчырына (15 км на поўнач ад Расіцы) і застаўся працаваць там. Айцец Фелікс служыў у Расіцы, бо не ведаў беларускае мовы і быў непрыдатны да місійнае дзейнасці. Асноўны цяжар працы лёг на плечы старэйшага місіі айца Антона Ляшчэвіча, які меў 25-гадовую місійную практыку ў Харбіне (Кітай), дзе быў пробашчам парафіі св. Язафата. Айцец Антон апекаваўся вернікамі ў Асвеі, у вёсках Крывасельцы, Барсукі, Перапечкі, Застава, Замошша, Бігосава, і іншых, а пасля арышту фашыстамі айца Мечыслава Багаткевіча — пробашча ў Дрысе — узяў у апеку і ягоную парафію. Паўсюдна прамаў-

ляў казанні па-беларуску. Пасля лютага 1943 году большасць вёсак, якія наведваў айцец Антон, ужо не існуе.

Працы было шмат, таму ў ліпені 1942 году айцец Антон замест айца Фелікса прывёз да Расіцы айца Юрыя Кашыру, які нарадзіўся ля Мёраў і выдатна валодаў беларускай мовай. Так удвох ды з дапамогаю шасці сёстраў-еўхарыстак яны неслі слова Божае люду. Чуткі пра плануемую фашыстамі карную аперацыю даходзілі даўно, але дакладна пра яе даведаўся айцец Антон у нядзелю 14 лютага ад паліцыянтаў у Дрысе. Падцверджанне гэтаму атрымаў і айцец Юры з нямецкага штабу ў Бігосаве. Нягледзячы на небяспеку, святары з'ехаць не захацелі, засталіся каля свайго духоўнага статку, за што і загінулі.

Вось ужо паказалася і Расіца з прыгожым — з чырвонае цэглы — касцёлам па-над возерам. Прыпыніліся мы ля самога касцёлу, і насустрач да нас хутка выйшаў зычлівы чалавек, мясцовы пробашч айцец Антон Лось, які апекуецца расіцкай парафіяй. Нарадзіўся айцец Антон ва Удзеле, што недалёка ад Глыбокага, але ў 1957 г. ягоная сям'я з'ехала ў Польшчу. Айца Антона лучыць з расіцкімі пакутнікамі не толькі месца служэння і прыналежнасць да закону марыянаў. Дзядзька ягоны — таксама Антон Лось,— які цяпер пробашчам у Ідолце, што амаль насупраць за Дзвіной, і які таксама марыянін, у 1932-1938 гг. навучаўся ў Друі разам з айцом Ю.Кашырам. У 1938-1939 гг. ён быў у навіцыяце ў Скорцы (Польшча) разам з айцом А.Ляшчэвічам. У 1975 г. айцец А.Лось-малодшы быў накіраваны на вучобу ў Ангельшчыну, дзе Бог звёў яго з беларускімі святарамі — біскупам Чеславам Сіповічам і айцом Аляксандрам Надсанам. Айцец А.Лось з удзячнасцю ўспамінае іхнюю дапамогу падчас вучобы ў Лондане.

Айцец Антон паказаў нам касцёл, які ўнутры ўвесь у рыштаваннях, бо шмат яшчэ працы і няшмат сродкаў. Касцёл гэты закладзены ў 1906 г., пра што сведчыць умураваная ў бакавую сцяну шыльда. Кансэкраваны ён, паводле словаў айца Антона, у 1913 г. Нядоўгім было жыццё парафіі. У 1935 г. айца Капусту бальшавікі схапілі і выслалі ў Сібір, дзе ён і загінуў. Пасля яго нядоўгі час быў айцец Вайцяховіч, якога напаткаў такі самы лёс. У касцёле саветы зрабілі кіназалю. Быў выкінуты з хораў арган і пастаўлены праектар. Толькі ўвосень 1941 году парафіяльнае жыццё патроху пачало аднаўляцца, але ненадоўга. Пасля вайны касцёл стаў саўгасным хлявом. Пакуль служба Божая адпраўляецца ў бакавой капліцы. Няшмат абразоў, але ёсць свая святыня — абраз Маці Божай, што аздабляў бакавы алтар у часе, калі тут служылі айцы Антон і Юры.

Разам з айцом Антонам дарогаю мінулі невялікую лагчыну ля возера. Увесь час перад вачыма паўставалі карціны карных акцыяў з фільму «Ідзі і глядзі». Збочылі ўлева і побач з саўгасным машынным дваром убачылі невялікі помнік, усталяваны ў 1975 г., з надпісам, які сведчыў, што тут спалена фашыстамі 380 чалавек. Помнік абнесены жалезным ланцугом па форме тае саўгаснае стайні, дзе загінулі вяскоўцы і разам з імі іхні духоўны айцец Антон Ляшчэвіч. У 1992 г. побач з помнікам пастаўлены крыж. Пасля малітвы за памерлых вярнуліся да скрыжавання і пайшлі ад галоўнае вуліцы ў правы бок. Тут, недалёка ад ростаняў, у гародзе,— месца, дзе ў хаце спадарства Гадзюкоў быў спалены разам з іншымі вяскоўцамі а. Юры Кашыра. Толькі ў верасні 1992 г. магіла была адзначаная і на ёй пастаўлены крыж. Магіла месціцца на мяжы двух участкаў. Адна гаспадыня даглядае магілу, а другая не дала дазволу на пашырэнне мемарыяльнае зоны. Памаліўшыся, сабраліся ў дарогу. На выездзе з вёскі прыязна развіталіся з айцом Антонам.

*Расіца, 21.04.1999. Крыж на месцы былой саўгаснай стайні, дзе разам з 380 жыхарамі спалены а. Антон Ляшчэвіч*

Вярталіся праз Сар'ю, дзе часта бываў айцец А.Ляшчэвіч, і дзіву даліся, даведаўшыся, што збудаваны ў 1852-1857 гг. цудоўны неагатычны касцёл улады аддалі праваслаўным, а парафіяне-каталікі змушаныя туляцца па хатах. Ці гэткім ёсць шлях да міжканфесійнага паразумення?

На зваротным шляху ў Дрысе мелі працяглую размову з мясцовым пробашчам айцом Тамашом, які распавёў пра жыццё парафіі. Паводле словаў айца Тамаша, большасць вернікаў, як каталікоў, гэтак і праваслаўных, паходжаннем з-за Дзвіны, з тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Мясцовых жа няшмат, бо тут нібы жалезны каток прайшоўся па душах людскіх.

Ад'ехаўшы яшчэ каля 15 км у бок Полацку, у Прудзінах збочылі да Валынцоў, каб паглядзець, што засталося ад дзівоснага манастырскага комплексу айцоў дамініканаў, які быў збудаваны ў XVIII ст.

*Працяг на стар. 13*

# Паведамленне

## пра жорсткія злачынствы, учыненыя вялікім князем Маскоўскім над манахамі Полацкага манастыра ў Беларусі 11 і 12 ліпеня 1705 году, дасланае Папу спадаром нунцыем[1] у Польшчы

Перш чым выправіцца з Масквы, каб прыйсці на дапамогу каралеўству Польскаму і ў прыватнасці каралю Аўгусту, бок якога цар[2] прыняў, ды прайсці з войскам сваім па Беларусі, правінцыі Польшчы, да мяжы гэтых земляў, ён загадаў адміністратару Маскоўскага патрыярхату Яворскаму склікаць маскоўскіх мітрапалітаў, архібіскупаў і біскупаў, каб прыняць іхняе бласлаўленне і атрымаць у Бога спрыяння ў вайне, якую ён меўся весці супраць шведаў. Ерархі адказалі, што бласлаўленне, якое яны дадуць яму, не мецьме аніякага ўздзеяння, пакуль ён не знішчыць каталіцкую веру ў Польшчы і ў краях ад яе залежных.Цару спачатку прапанова гэтая прыйшлася не да густу. Ён нават двойчы адмаўляўся прыняць іхні пункт гледжання даводзячы, што каталікі знаходзяцца пад апекаю Папы і большае часткі еўрапейскіх уладароў. Біскупы ў адказ казалі: «Ці ж вы не бачыце, што каталікі захапілі вялікія біскупствы Перамышльскае, Львоўскае ды Луцкае[3], якія раней належалі да іншае юрысдыкцыі, і падпарадкавалі іх уладзе Рымскага Пантыфіка, і поспехі, якіх яны дасягаюць увесь час у гэтым каралеўстве нагэтулькі вялікія, што ў стане хутка зруйнаваць нашую веру». Словы гэтыя зачапілі цара і схілілі яго да рашэння паклясціся разам з галоўнымі вяльможамі ягонага двара, што загубяць каталікоў. Цар атрымаў бласлаўленне сваіх біскупаў і рушыў у дарогу, вырашыўшы весці вялікую вайну як з каталікамі, гэтак і з шведамі.

Як толькі прыбыў ён у Віцебск, што ў Беларусі, дзе раней быў закатаваны Блаславёны Язафат, дык адразу загадаў знішчыць усе выявы Святога, якія знаходзіліся ў гэтым месце і ягоных ваколіцах. Ён нікога не чапаў, бо пачуваўся кепска, і ў яго не было жадання наводзіць жах у Літве. Перад тым, як выправіцца ў Полацак, ён вырашыў спаліць цела Святога Пакутніка, але яно абачліва было перавезена ў іншае месца пасля прамовы цара ў Віцебску.

Уладар гэты з сваім войскам атабарыўся вакол замку *[полацкага - М.Б.]* і катэдральнае царквы[4] і заставаўся там цягам 16 дзён без ніякае справы праз нянавісць сваю да каталікоў да 11 ліпеня, калі ўвайшоў у катэдральную царкву, дзе служылі манахі-базыльяне, якія спявалі вячэрню. Ён наблізіўся да алтара Блаславёнага Язафата і, уважліва разглядаючы ягоны абраз, запытаўся ў айца Сцяпана Калбячынскага звыклага казальніка, які атрымаў адукацыю ў Папскай калегіі ў Брансберзе (Прусія)[5]: «Што рэпрэзэнтуе гэты абраз?» Манах адказаў, што гэта Блаславёны Язафат. «А што сімвалізуе гэтая сякера ў ягонай галаве?»— зноўку запытаўся цар. «Гэта азначае,— адказаў айцец,— што жыхары Віцебску забілі яго ўдарам сякеры». «Але чаму,— працягваў цар,— далі яму імя Святога і шануюць у гэтай якасці і хто даў яму гэтае імя?» «Гэта Папа кананізаваў яго»,— адказаў манах. «Дык значыць вы каталік?»— дамагаўся цар. «Бачыць Госпад, я ёсць ім»,— адказаў айцец не марудзячы. Тады цар, не даючы часу казаць далей, моцна выцяў яго кіём па галаве і, стукнуўшы ў скіўіцу, паваліў на падлогу, і нацкаваў на яго ангельскага дога, які й задушыў таго. Заўважыўшы, што закрыстыянін Язафат Анкудовіч моліцца перад алтаром Св. Пакутніка *[Язафата — М.Б.]*, цар падыйшоў да яго й працяў сваёй шпагай. Пасля гэтай крывавай расправы ён, раз'юшаны, падбег да галоўнага алтара і, схапіўшы Св. Дараносіцу, шпурнуў на падлогу Св. Дары. Айцец Канстанцін Зайкоўскі, полацкі вікарый, убачыўшы гэткае блюзнерства, кінуўся збіраць Св. Дары. Цар адсек яму вушы і загадаў вывесці з храму і павесіць. Пасля пакарання вяроўку перасеклі і цела гэтага святога манаха паставілі на калені з скрыжаванымі рукамі і пакінулі ў гэтай паставе цягам чвэрці гадзіны, нібыта ён схіляўся перад Св. Тайнамі. Але з-за боязі, што целы гэтых трох манахаў і тых, каго цар забіў пазней, будуць шанавацца, як пакутнікаў, ён загадаў каб спалілі ўсіх, хто быў закатаваны. Вярнуўшыся з месца катавання да манастыра, цар забіў рознымі спосабамі, у прыватнасці шпагаю, айца Кліманта Разнятоўскага, казальніка вялікае вартасці, і айца Якуба Князевіча, і айца Міхаіла Кавалеўскага, і айца Мялеція Кандратовіча, дыякана, і айца Каляду, проста спаведніка. Іншыя манахі, ўражаныя гэтай жудаснай бойняй, ратаваліся ўцёкамі. Адзін толькі айцец Якуб Кізікоўскі, чалавек цнатлівы й годны, доктар тэалогіі, застаўся ў манастыры. Цар знайшоў айца ў ягоным пакоі і працяў сваёй шпагаю. Але ўдар не стаўся смяротным, і цар загадаў аднесці яго ў бліжэйшую вязніцу, дзе потым жорстка яго катавалі праз усю ноч. На наступны дзень цар загадаў яго павесіць, бо той не захацеў ні зрачыся свае веры, ні выдаць месца схову срэбнага царкоўнага начыння. Гэты таленавіты чалавек атрымаў адукацыю ў Грэцкай калегіі ў Рыме. Раней ён быў старэйшым віленскага манастыра, потым кіраваў гэткім жа манастыром у Полацку ўсіх задавальняючы.

Нават гэткая колькасць крыві была не ў стане наталіць жорсткасці цара. Ён накінуўся на тых простых асобаў, што абслугоўвалі манастыр. Кухар і ўсе хатнія былі замардаваныя праз розныя катаванні. Некалькі жанчынаў, што былі сведкамі гэтага сумнага відовішча, не здолелі стрымаць слёзаў сваіх і стогнаў, чым выклікалі ў цара прыступ шаленства, і той загадаў адрэзаць ім грудзі. Пасля ўсіх гэтых злачынстваў царкву зачынілі і, адабраўшы ў каталіцкага архібіскупа[6], перадалі схізматыкам. Яна і дагэтуль стаіць зачыненай, бо цар загадаў яе апячатаць.

Гэтым крывавая трагедыя не скончылася. Цар у той самы дзень 11 ліпеня, увайшоўшы ў манастыр схізматыкаў[7], запытаўся ў манахаў, чаго б яны жадалі. У адказ тыя прасілі яго душыць каталікоў як адной, гэтак і другой плоці. «Я зраблю гэта заўтра ж,— прамовіў цар,— і задаволю гэтым мой клер». Цар стрымаў сваё слова, спустошыўшы каталіцкія манастыры як мужчынскія, гэтак і жаночыя, загадаў выразаць полацкіх манахаў-базыльянаў і выгнаць манашак, думаючы, што сорамна яму панурадь свае рукі ў кроў гэтых нявестаў Ісуса Хрыста.

Дэталёва яшчэ не вядома, што зрабіў цар у манастырах, якія сустракаліся на ягоным шляху. Дакладна вядома тое, што мноства манахаў блукаюць па вёсках і хаваюцца ў пустэльных месцах, каб пазбегнуць лютасці крываЖэрнага цара, і што адзін з галоўных каралеўскіх міністраў параіў манахам галоўнага манастыра Турулы[8] схаваць свае рэчы і саміх сябе, каб не трапіць у рукі гэтага заклятага ворага каталікоў, які прылюдна выхваляўся, што хоча ўсіх іх знішчыць, як зрабіў гэта ў Полацку. Яшчэ вядома, што ў аднаго кара-

леўскага сенатара[9] і двух палкоўнікаў, якія былі запрошаныя царом на вялікае банкетаванне, ён запытаўся, дзе знаходзіцца рускі мітрапаліт[10]. Сенатар яму адказаў, што таго, здаецца, няма ў Літве, напэўна, ён разам з сваім клерам перабраўся на Валынь. Цар у адказ прамовіў наступнае: «Калі я раней яго бачыў у Берасці, дык прапанаваў яму альбо адрачыся ад веры каталіцкае, альбо быць павешаным[11]. Сёння я цар і загадваю яго павесіць». Мітрапаліт, папярэджаны аб гэткім жудасным рашэнні, пусціўся ва ўцёкі і, каб не трапіць у царовыя рукі, хаваецца сярод лясоў і балотаў, як і манахі з манастыроў, ля якіх праходзіць цар, і гэты уладар загадвае шукаць іх старанна.

Я, падцвярджаючы гэтае паведамленне, якое чуў з вуснаў самога Папы[12], якому спадар нунцый у Польшчы пісаў, што цар пакляўся абыходзіцца з усімі езуітамі гэтак сама, як з манахамі-базыльянамі.

*Biblionteque Nationale de France, manuscript francais 20141, feuilles 218-219.*

**Заўвагі:**

1. Пэўна, маецца на ўвазе нунцый Мікалай Спінола.
2. Цар Пётр I падтрымаў Аўгуста II (1697-1706; 1709-1733) у барацьбе за польскі пасад супраць Станіслава Лышчынскага, якога падтрымала Швецыя. Пачатак уводу войскаў прыпадае на восень 1704 г.
3. Згаданыя біскупствы прынялі Унію: Перамышльскае — 1693 г., Львоўскае — 1700 г., Луцкае — 1702 г.
4. Полацкі Сафійскі сабор.
5. Брансберг (сучасная назва — Бранева, Польшча) — горад на беразе Балтыйскага мора за 30 км ад Каралеўца.
6. Архібіскупам на той час быў Міхаіл Марцыян Белазор (1697-1707).
7. Полацкі Богаяўленскі манастыр.
8. Арыгінальная назва не ўдакладнена.
9. Пэўна, маецца на ўвазе размова Пятра I з гетманам польным ВКЛ Рыгорам Агінскім на банкеце ў Вільні 29 ліпеня 1705 г.
10. Мітрапалітам рускім у той час быў Леў Заленскі (11.11.1693-21.07.1708).
11. Сустрэча адбылася ў верасні 1698 г.
12. Клімент XI (1700-1721 гг.).

**Выказваем шчырую падзяку спадару Ігару Лялькову за знаходку і перадачу матэрыялу.**

*Пераклад* **Міколы Ермалаева**
*Падрыхтоўка тэксту* **Міхася Баўтовіча**
*г.Полацак*

# Раціца: смерцю смерць перамогшы

*Праціг, пачатак на стар.10-11*

Праехаўшы ўздоўж вёскі, не ўгледзілі аніякае адзнакі манастыра. Толькі пасля апытання вяскоўцаў знайшлі ў школьным двары месца, дзе ў 1786-1811 гг. месцілася калегія, у якой выкладалі браты Цяцерскія і дзе напісаная і пастаўленая першая беларуская аперэта «Апалон — заканадаўца, або зрэфармаваны Парнас». Пазней, у 1831 г., манастыр быў зачынены царскімі ўладамі, а касцёл стаў парафіяльным. У 1920 г. чырвонаармейцы адчынілі сутарэнні касцёлу, дзе былі пахаванні манахаў і сям'і Шчытоў-Забельскіх, фундатараў манастыра. Выцягнулі цела пахаванага тут генерала, пэўна, з роду Шчытоў, абадралі эпалеты, сцягнулі боты, а цела кінулі. Потым на целах пахаваных адпрацоўвалі ўдары штыком. Вар'яцтва ды й годзе!

Дакладны час знішчэння манастырскага комплексу невядомы, аднак вяскоўцы кажуць, што пашкоджаны ён быў у часе вайны, а пазней разабраны на цэглу. На месцы касцёлу засталася толькі гара друзу, які не здолелі вывезці, магчыма, нешта захавалася ў засыпаных сутарэннях. Ад усяго комплексу ацалела некалькі старых дрэваў у парку і невялікія сажалкі вакол яго. Толькі ў школьным музеі ўбачылі мы макет манастыра з касцёлам з любасцю выкананы былым парафіянінам сп. Палынскім. За час савецкае ўлады разбураныя не толькі касцёл, але і царква, збудаваная ў 1886 г. Вось так і стаяць Валынцы ўжо колькі пакаленняў без Бога.

Але Усемагутны Бог пачуе малітвы верных сыноў Сваіх, што прынеслі сябе ў ахвяру і змілуецца над нашым людам.

*Полацак-Расіца-Полацак*
**Міхась Баўтовіч**
*21.04.1999*

## Малітва за праслаўленне Полацкіх мучанікаў

*Хрысце Божа наш, ушаноўваем Тваю бясконцую веліч, славім Тваю нязменную міласэрнасць. Складаем падзяку Табе, што Ты даў нам мужных вызнаўцаў веры – Полацкіх мучанікаў. Яны ахвяравалі жыццё для сваёй Царквы і сваіх вернікаў. Просім Цябе праславіць іх той жа славаю, у якой яны жылі і працавалі ў сваім жыцці і аддалі яго за Цябе. Праз іх заступніцтва пакорліва Цябе просім аб ласцы – у надзеі на Тваю міласэрнасць, што Ты прымеш нашу малітву. Бо Ты міласэрны Бог, і Табе славу аддаем, Айцу, і Сыну, і Святому Духу цяпер, і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін.*

## АБВЕСТКА

Полацкае выдавецтва "Сафія" плануе выдаць у першай палове 1999 году наступныя кнігі:

- **«Архіў уніяцкіх мітрапалітаў» (ч.1).** *Апісанне дакументаў, што захоўваюцца ў Санкт-Пецярбургскім архіве ўніяцкіх мітрапалітаў. Наклад 200 асобнікаў. Аб'ём 386 стар. Будзе цікава ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Уніяцкай Царквы.*
- **«Вянок акафістаў».** *Зборнік уключае творы з «Малой падарожнай кніжкі» Ф. Скарыны, вершаваныя акафісты Сымона Полацкага, акафісты да св. Еўфрасінні і св. Язафата, выкладзеныя па-беларуску. Наклад 400 асобнікаў. Аб'ём 264 стар.*

Просьба да старшыняў парафіяў дзеля планавання распаўсюджвання выданняў сабраць заяўкі ад парафіянаў і даслаць на адрас:

**Міхасю Баўтовічу**
**вул. Ф.Скарыны 16, кв. 18**
**211400 г.Полацак Віцебскай вобл.**
**Беларусь**

Прыватныя асобы таксама могуць дасылаць свае замовы на пазначаны вышэй адрас.

*Рэдакцыя выдавецтва* "Сафія"

У календары Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы травень пазначаны як месяц, прысвечаны Найсвяцейшай Багародзіцы. Да таго ж, у гэты час мы маем парафіяльныя святы ў Івацэвічах — у гонар Жыровіцкай іконы Маці Божай (7 траўня па нов. ст.) і ў Горадні — 13 траўня, у дзень З'яўлення Маці Божай у Фаціме. Адмысловымі малітвамі, акафістамі і песнямі ў гонар Багародзіцы мы ўслаўляем нашу Уладарку і Заступніцу.

Вядомая дзяячка беларускай эміграцыі з Канады сп-ня Раіса Жук-Грышкевіч даслала ў рэдакцыю «Царквы» цудоўны твор у гонар Божай Маці. Як сцвярджае сп-ня Р.Жук-Грышкевіч, беларускі тэкст гэтага твору — Люрдаўскай песні — яшчэ нідзе дагэтуль не апублікаваны. Найсвяцейшая Дзева Марыя, што з'явілася сціплай 14-гадовай дзяўчынцы Бернардэцэ ў Масабельскім гроце непадалёк ад Люрду (Францыя), ушаноўваецца ва ўсіх кутках свету. Багародзіца ў сваіх аб'яўленнях указала дзяўчынцы крыніцу з цудадзейнаю аздараўляльнаю сілаю. Шматлікія цуды, якія адбыліся праз заступніцтва Багародзіцы, выклікалі адно з самых цудоўных аднаўленняў у гісторыі Царквы. Люрдаўская песня — гэта цудоўная балада ў апрацаванні нашай знакамітай паэткі Наталлі Арсеньневай.

## Люрдаўская песня

Над спелым калоссем спяваюць званы,
аб дзіве дзіўнейшым скрозь весцяць яны,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Ледзь сонца узнялося над сеткай палёў,
пайшла Бэрнардэтка у лес па галлё,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Аж раптам гарачы, нястрымны віхор
ад скал Масабельскіх нізрынуў на бор,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Нясцерпнае ззянне шугнула да хмар,
і папараць-кветкай успыхнуў гушчар,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Схіліліся нізка да сцерпнай зямлі
і ніцыя зёлы й дубы-каралі,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Замерла дзяўчына, прыйльгнула да пня,
не смее павекі ў ззянне ўзняць,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Нарэшце зірнула — за зоры святлей,
праменная Дзева стаіць на скале,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Кашуля, як снег той, як неба паяс,
абліча, як вёсны ціхія ў нас,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Зярняты ражанцу зіхцяць на руках
і белыя ружы ўслалі ёй шлях...
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Схінула калені ў пакоры дзіця,
трымціць, як над плёсам сцяблінка трысця,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

І вуснамі ссохшымі шэпча бы ў сне:
«О, будзь міласцівай да нас, да мяне!»
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Ды згінула З'ява... Сацьмела скала...
Чакала малая, шукала й пайшла,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай Марыя.

Назаўтра, ледзь ранак усплыў над зямлёй,
не спіць Бернардэтка, ірвецца ў галлё,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Туды, дзе ўчора, між скалаў, адна,
Чароўную Постаць вітала яна,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Дазволь мне, матуля, ісці да Яе,
мне радасць дзіўная чакаць не дае!»
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя

І лёгкаю птушкай памкнула ў туман.
І зноўкі ёй Дзева з'явілася там,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Што хочаш? Скажы!» — моліць Дзеву дзіця,
Твая ж я ўся, пакуль стане жыцця»,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Прыходзь да мяне, і сяброўак бяры,
два тыдні з вамі я буду ў бары»,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Табе ж прыракаю я, любка мая,
ціхое жыццё й нябёсы пасля»,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Так сталася, й дзеці паверылі Ёй,
Ды цяжка даць рады няверы людской...
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя!




*Уладзімір Салаўёў*

## Кумір Небукаднецара

*(прысвячаецца К.П.П.)*

Падданым ён крычаў у аблудзе:
«Вы ля маіх ляжыце ног!
І хай цяпер над вамі будзе
Да веку мой адзіны Бог!

Я клічу вас у даліну Дуры.
Кідайце ўсе багоў сваіх.
Схіліцеся ж як перад бурай
Перад стварэннем рук маіх».

Прыслужнікі ў бомы білі,
Быў чутны мусікійскі гром.
І ладан там жрацы курылі
Перад чарговым алтаром.

І ад Егіпту да Паміра
Князі сабраліся кругом
І рукатворнага куміра
Жыцця назвалі ўладаром.

Ён быў вялікі, цяжкі і страшны,
Спіной як бык, са твару леў,
Вакол ляжалі купы брашнаў
І дым кадзільніцаў курэў.

І перад ідалам на троне,
Трымаючы свяшчэнны шар,
І ў сяміяруснай кароне
З'явіўся Небукаднецар.

Ён гаварыў: «Мае народы!
Зямны я бог, я цар цароў,
Таптаў я кожны сцяг свабоды,
Вышэй я іншых уладароў.

Але я ўбачыў, што вы груба
Маліліся другім багам,
Хоць толькі цар, што небу любы,
Мог даць багоў сваім рабам.

Вам бога новага даю я,
Яго свяціў мой царскі меч.
Непаслухмяным я рыхтую
Крыжы й распаленую печ».

І па раўніне дзікім стогнам
Пранёсся крык: «Ты бог багоў!»
Зліваючыся з бомаў звонам
І з гласам трапяткіх жрацоў.

Пры выглядзе такога глуму
«Мой Бог!»— я моцна закрычаў,
Грамчэйшы за вар'яцтва тлуму
Мой голас ў небе загучаў.

І ад вяршынь Атурапатны
Дыхнула бурнаю зімой.
Як храму полымя, аглядна
Цвердзь разыйшлася нада мной.

І беласнежныя мяцелі
І з градам, з лііўневым дажджом
Карою лёдзістай адзелі
Раўніну Дурскую кругом.

Ён паў у падзенні найвялікім
І перакулены ляжаў.
А ад яго ў страху дзікім
Люд апантана ўцякаў.

Таго былога ўладцу ўспомніў:
Як неяк бачыў на палі,
Як ён з гавядаю нароўні
Траву скуб проста пры зямлі.

*Пераклаў на беларускую мову*
**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ**
*г.Санкт-Пецярбург*



*Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Я звяртаюся да ўсіх каталікоў, хто неабыякава ставіцца да нашага сучаснага жыцця. Як большая частка нефармальнай моладзі праводзіць свой час? Прымае ўдзел у паблажках сваім дрэнным схільнасцям — распусце на дыскатэках і пасля іх у кватэрах сваіх «сяброў», у алкагалізме, наркаманіі, «разборках» і ідалапаклонстве. Усё гэта сведчыць аб тым падзенні ў пекла, якое іх чакае пры такім стане жыцця. Шмат моладзі лічыць, што пекла — гэта вясёлае месца, дзе іх чакае працяг «банкету». На маё пытанне пра тое, ці баяцца яны пекла, шмат моладзі адказвае, што там вялікая колькасць знакамітых рок-музыкантаў (як яны лічаць) і будзе весела. Гэта сведчыць пра элементарную дурасць і няведанне праўды. Пекла — гэта вечная роспач, жах і боль, гэта жудасна. Мы, хрысціяне, павінны змагацца з сатаной, з яго хітрасцямі сваёй любоўю да Езуса, да Панны Марыі, і толькі рэлігійная адукаванасць моладзі выратуе яе ад непапраўных памылак. І той, хто верыць, няхай дапаможа іншым сваім асабістым прыкладам веры і як трэба праводзіць час, каб не крыўдзіць Езуса.*

*Пішыце ўсе! 220050 г.Менск, а/с № 359, Прыгуновай Алене.*

**Алена Прыгунова**

*г.Менск*

**Ад рэдакцыі:**

Тэма, якую ўзняла сп-ня А.Прыгунова, падаецца нам не такой адназначнай. Таму прапануем нашым чытачам выказаць сваё меркаванне адносна праблемаў, узнятых у лісце сп-ні Алены Прыгуновай.

## Новы праект Біблійнага Таварыства

Беларускае Біблійнае Таварыства з'яўляецца буйным цэнтрам па распаўсюджванні Бібліі і іншай духоўнай літаратуры, актыўна шукае самыя разнастайныя шляхі для азнаямлення людзей са Святым Пісаннем. Адным з такіх новых накірункаў дзейнасці Біблійнага Таварыства стала праграма «Вера — ад слухання». Як сцвярджае дырэктар Біблійнага Таварыства сп. Якаў Патупчык, мэта гэтай праграмы — паставіць Слова Божае ў цэнтр духоўнага жыцця кожнага хрысціяніна. Менавіта дзеля гэтага таварыства падрыхтавала інсцэніраваны (з чытаннем па ролях і музычным аздабленнем) аўдыёзапіс Новага Запавету ў сінадальным перакладзе. Праграма «Вера — ад слухання» — гэта новы спосаб дзейнічаць так, як дзейнічалі хрысціяне першых стагоддзяў. Да таго, як з'явілася кнігадрукаванне, гэта быў адзіны спосаб для людзей даведацца пра волю Божую. Слуханне Слова Божага вельмі адрозніваецца ад чытання яго. Мы заўважаем іншыя ісціны, калі слухаем. Ісціны гэтыя заўжды там былі, але слуханне выдзяляе іншыя аспекты. Да таго ж аўдыёкасэты даюць магчымасць ажыццявіць праслухоўванне Новага Запавету ў шпіталях, дамах састарэлых, турмах і калоніях, дамах-інтэрнатах і г.д. Сёння праект «Вера — ад слухання» ажыццяўляецца Біблійнымі таварыствамі ў 49 краінах свету, і гэта дало магчымасць духоўнага росту для мноства хрысціянаў.

Аўдыёкасэты — 14 штук — пастаўляюцца ў арыгінальнай, зручнай і кампактнай упакоўцы. Час гучання адной касэты — 100 хвілінаў. Пра сваё жаданне набыць бясплатны камплект касэтаў з запісам Новага Запавету неабходна пісьмова паведаміць нам на адрас:

*Беларускае Біблійнае Таварыства*
*вул. Чыгладзэ, 19*
*220093 г.Менск, Беларусь*
*Тэл. для даведак (017)250-39-98*

Вы атрымаеце стандартны бланк заяўкі на аўдыёкасэты, і паводле яе будзе афармлены заказ на выраб касэтаў. Як толькі яны будуць гатовыя, іх дашлюць заказчыку.

Кіраўнік Беларускага Біблійнага Таварыства Я.Патупчык заклікае да супрацоўніцтва па праграме «Вера — ад слухання» ўсе парафіі, брацтвы і сястрыцтвы, нядзельныя школы, а таксама тых хрысціянаў, якія нясуць служэнне ў турмах, калоніях, шпіталях і г.д. — усіх, хто мае магчымасць наладзіць групавое праслухоўванне касэтаў.

**Ад перакладчыка:**

Верш *«Кумір Небукаднецара»* пабудаваны на 3-м і 4-м раздзелах кнігі прарока Даніэла Старога Запавету. Ягоны аўтар — выдатны расейскі філосаф і багаслоў Уладзімір Салаўёў (1853-1900). Гэты верш быў прысвечаны сучасніку аўтара — обер-пракурору Сінода, ідэолагу контррэформаў пры Аляксандры III і Мікалаі II К.Пабеданосцаву. Праз гэтую акалічнасць пры жыцці Уладзіміра Салаўёва гэты твор не быў надрукаваны.



*Слава Ісусу Хрысту!*

*Паважаная рэдакцыя газеты «Царква»! Дазвольце на старонках газеты выказаць словы ўдзячнасці і падзякі братам і сёстрам у Хрысце за маральную падтрымку і матэрыяльную дапамогу, якую мне аказалі.*

*Справа ў тым, што я цяжка захварэў і ўрэшце рэшт — ампутацыя правай нагі вышэй калена. На жаль, на гэтым мае пакуты не скончыліся, і неўзабаве пасля аперацыі на кульце пайшла інфекцыя, і зноў аперацыя. Пасля гэтай аперацыі я апынуўся ў вельмі цяжкім стане. З Баранавіцкага шпіталю мяне накіроўваюць у Берасцейскі абласны шпіталь дзеля далейшага лячэння. Амаль тры месяцы прыкаваны да ложка. Зноў зроблены дзве аперацыі, але, на жаль, гэта яшчэ не апошняя. І вось увесь гэты час мяне не пакідаюць без увагі мае браты і сёстры ўніяты. Спадзяюся, што з Божай дапамогай і пры іх падтрымцы да мяне прыйдзе выздараўленне і я зноў змагу прымаць актыўны ўдзел у адраджэнні Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы на Бацькаўшчыне. А пакуль я хачу падзякаваць усім вернікам Баранавіцкай парафіі святых роўнаапостальных Кірылы і Мятода, айцу Яўгену, таксама ўсім вернікам Берасцейскай парафіі Пятра і Андрэя і асабліва айцу Ігару Кандрацьеву. Вялікую падзяку складаю вернікам Івацэвіцкай, Маладэчанскай, Лідскай, Гомельскай і Полацкай парафіяў, манашкам і манахам Полацкіх жаночага і мужчынскага манастыроў студыцкага чыну і асабіста айцу Пахому. Вельмі ўдзячны за клопат і дапамогу ў гэты цяжкі для мяне час Віктару Пастухову, Артуру Ганько і Юрасю Мондрыку з места Ліда, Алесю Капуцкаму з Маладэчна, Максу Кірэйчыку з Гомеля, Арыне Вячорка з Менску, Уладзіміру Губскаму з Полацку, Сяргею Ёршу з места Слонім. Асобнай падзякі заслугоўвае брат у Хрысце актор, аўтар і выканаўца беларускіх рэлігійных і патрыятычных песняў Яўген Савельеў. Сваімі спевамі ён падараваў мне ў шпіталі незабыўныя хвіліны радасці і цяпла, упэўненасць у выздараўленне.*

*Дарагія і любыя браты і сёстры! Нізкі паклон вам і вялікая падзяка за вашыя добрыя сэрцы, вялікія, спагадныя, любячыя і адчыненыя душы для Бога і дабра. Няхай заўжды жыве Бог у нашых сэрцах!*

*Усяміласцівы і ўсеспагадлівы Хрысце Божа наш! Дзякую Табе за Тваю бацькоўскую любоў да мяне грэшнага, за пазнанне Твайго праўдзівага слова праз Святое Пісанне.*

*Прашу Цябе, Ісусе, Сын Бога жывога, дапамажы мне вытрымаць усе выпрабаванні гэтага жыцця і ўмацуй ува мне веру ў жыццё вечнае ў валадарстве нябесным Бога Айца нашага.*

*Дай мне сілы выконваць запаветы і спаўняць волю Тваю на славу Айцу, і Сыну, і Святому Духу цяпер і заўсёды, і на векі вякоў.*

**Уладзімір Гундар**

*г.Баранавічы*

**Паола Вагнэр**

# Тата, а дзе жыве Бог?

### 11. ТАТА, А ЧАЛАВЕК ЗАЎСЁДЫ ПАВІНЕН БЫЦЬ ЛАГОДНЫ І ЎСМІХАЦЦА?

Не, не павінен. Вядома, лепей мець добры настрой і раздаваць людзям вакол сябе радасць. Але калі маеш праблему, страх, або табе нешта не падабаецца,— не можаш заставацца лагоднай. Некаторыя людзі думаюць, што хрысціяне павінны быць лагоднымі і ўдзень, і ўначы. Але нават Ісус не быў такім. Я ж табе ўжо распавядаў, як Ісус Хрыстос прыйшоў у храм і вельмі раззлаваўся, што там гандлявалі і мянялі грошы ў месцы для малітвы. Ісус быў так разгневаны, што закрычаў на гандляроў і перакуліў ім сталы.

Хрысціяне не могуць заставацца лагоднымі ў першую чаргу тады, калі крыўдзяць кагосьці слабога. Такія выпадкі ты добра ведаеш са школы. Які-небудзь пяцікласнік пакрыўдзіць першаклашку, а ўсе стаяць вакол і маўчаць або нават пасміхаюцца са слабейшага. Такое маўчанне да несправядлівасці альбо ўхваленне несправядлявасці пярэчыць таму, што Бог хоча ад хрысціянаў. Сапраўдны хрысціянін павінен папросту ісці на дапамогу слабейшаму.

Але не можам заставацца ўвесь час у гневе. Ісус навучаў нас перад усім цярплівасці і любові да іншых людзей, і нават да ворагаў. У большасці выпадкаў такую несправядлівасць можна перамагаць дабром. Трэба прабачаць і тым, хто да нас ставіцца несправядліва, хоць гэта часамі цяжка.

*Працяг. Пачатак у № 16-20*

### 12. ТАТА, А ЦІ МАНАШКІ ЗАЎСЁДЫ ПАВІННЫ АПРАНАЦЦА Ў ЧОРНАЕ?

Манашкі не заўсёды ходзяць у чорным, але ў большасці маюць аднолькавую вопратку. Манахі і манашкі адмовіліся ад таго, каб ажаніцца ці выйсці замуж, і ад таго, што будуць мець сваю ўласную сям'ю, і ад таго, што будуць мець уласную маёмасць. Яны зрабілі гэта для таго, каб быць найбольш падобнымі Ісусу Хрысту тым, што будуць зусім вольныя для службы Богу, якую хочуць выконваць у сваёй манаскай супольнасці. І гэтых манаскіх супольнасцяў вельмі шмат. У некаторых сёстры альбо браты ў грамадзе жывуць у вялікіх кляштарах. У іншых жывуць у малых групах у зусім нармальных дамах: як мы. А некаторыя жывуць як пустэльнікі. Адныя апякуюцца хворымі альбо старымі людзьмі, другія дзецьмі ў школах альбо моладдзю, іншыя жывуць сярод жабракоў і імкнуцца ім дапамагаць. Некаторыя заўсёды маўчаць, каб ім нічога не перашкаджала ў духоўным яднанні з Богам. У іншых манаскіх супольнасцях іхнія члены навучаюцца як найлепей казаць людзям і быць добрымі вестунамі Хрыстовай навукі.

Манахі і манашкі ёсць ва ўсім свеце. Яны носяць вельмі розную вопратку, але заўсёды простую. Фарба вопраткі бывае розная. Ёсць сёстры, якія носяць усё чорнае, а ёсць тыя, што апранаюць блакітнае, шэрае, белае альбо карычневае. З братамі тое самае. Там, дзе вельмі горача, напрыклад, у Афрыцы, часцей носяць светлыя колеры. Таму і манахі там ходзяць у белым.

У манаскай супольнасці мужчыны пражываюць толькі разам з мужчынамі, а жанчыны толькі з жанчынамі. Яны заўсёды ў радасці і шмат моляцца. Некаторыя людзі думаюць, што манахі і манашкі — гэта бедныя людзі, бедныя таму, што вымушаны адмовіца ад шмат якіх рэчаў і не маюць дзяцей. Аднак думаюць так толькі таму, што такога жыцця не пазналі і не здольныя яго нават уявіць. Я пераканаўся, што манахі і манашкі ў большасці людзі шчаслівыя і задаволеныя.



*(Працяг будзе)*

*Пераклаў з чэшскай*

**айцец Андрэй Абламейка**

*г.Менск*

---

У сям'і
айца Андрэя Абламейкі
радасць —
нарадзілася дачка
Анастасія!
**Шчыра вiншуем!**

## Утворана Юбілейная камісія БГКЦ

У мэтах падрыхтоўкі да святкавання Юбілею 2000 Году ў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве ўтворана адпаведная камісія, якую ўзначаліў а. Казімір Ляховіч. Згодна з рашэннем гэтай Юбілейнай камісіі, вернікам прапануецца абмеркаваць магчымую праграму святкаванняў у парафіях і ва ўсёй нашай Царкве і скласці свае прапановы на імя старшыні камісіі да 1.06.1999. Адрас і тэлефон для кантактаў: а. Казімір Ляховіч, вул.Караля, 18-21, 220004 г.Менск, тэл./факс (017) 220-47-89.


**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
**№ 2 (21), 1999**

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасце,
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82

**Заснавальнік і выдавец:**
Берасцейская грэка-каталіцкая парафія святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** святар Ігар Кандрацьеў
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 20 траўня 1999 году, а 6-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасв. № 836), вул.Чкалава, 14, г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** 2,0 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 2000 асобнікаў.

*Наш разліковы рахунак № 3015200210017 у Берасцейскім філіяле № 2 КБ "Абсалютбанк", МФО 150501242*


*Газета выдаецца на ахвяраванні. Шчыра дзякуем і молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*